КУЛЬТУРА › ГРАМАДСТВА › ЭКАНОМІКА ›
ЛЮДЗІ › ПАДЗЕІ › ФАКТЫ

‹ № 22 (294) ‹ 1 чэрвеня ‹ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ДЗВЕ МІЛІЦЫІ

Стар. 6

**ТАЯМНІЦЫ ЗА ШКЛОМ**

У Лідскім раённым судзе працягваецца разгляд пазову грамадскасці да кіраўніцтва шклозавода «Нёман». Грамадскасць патрабуе выканання закону і рэалізацыі правоў жыхароў дзяржавы

Стар. 5

**АЛІМПІЙСКІЯ ВОЙНЫ**

У 30-ю гадавіну вайны за Фальклендскія (Мальвінскія) астравы Аргенціна збіраецца ўзяць у брытанцаў рэванш на Алімпіядзе ў Лондане

Стар. 12

**ГЕНЕРАЛ ЯН КАНОПКА**

Стар. 14

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**АЎТАПРАБЕГАМ ПА ЕЎРОПЕ**

Інтэрв'ю са Зміцерам Вайцюшкевічам

З НАГОДЫ

# НЕ СКАРЫЦЬ, НЕ СТРЫМАЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ!

Вольга ХВОІН

**На гэтым тыдні Беларусь чакае візіт прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. З гэтай нагоды МУС старанна трэніруецца шукаць і абясшкоджваць тэрарыстаў. Свой галаўны боль — юных, смелых і незадаволеных — ужо ізалявалі з адвагай і доблесцю.**




Афіцыйны візіт Уладзіміра Пуціна ў статусе прэзідэнта ў Беларусь абмяркоўваецца ўжо два тыдні. Палітыкі-аналітыкі агучваюць свае прагнозы, перасцярогі і спадзяванні. МУС Беларусі таксама не спіць у шапку — ідуць вучэнні па пошуку ўяўных тэрарыстаў, што могуць замахнуцца на вяльможную асобу. Органы «бдят», і сваёй пільнай увагай, калі меркаваць па зробленых захадах, «уганаравалі» асобаў не драбнейшага маштабу.

Актывістаў зарэгістраванай у Чэхіі моладзевай арганізацыі «Малады фронт» адправілі на «суткі» арышту, фактычна не выпускаючы з Цэнтру ізаляцыі правапарушальнікаў. Уладзімір Яроменка, Зміцер Крэмянецкі, Раман Васільеў фактычна сталіся закладнікамі візіту высокага госця.

«Па заканчэнні тэрміну, маладафронтаўцы нават не выйшлі самастойна за сцены ізалятару — іх адразу прывезлі ў суд і далі новыя «суткі». Па пратаколах, з бюракратычнага боку, усё выглядае законна, хоць і дзіўна: вызваліўся, выйшаў з ЦІП не заўважаны паплечнікамі, якія стаялі ля дзвярэй, паехаў у Малінаўку, мацюгнуўся — і зноў на Акрэсціна ў ізалятары. Дужа прыкра, калі дзяжурныя з ЦІП і РАУС на пытанні родных і сяброў затрыманых халодным голасам адказваюць: «освободился по времени». На пытанне, ці бачылі яго на выхадзе, кожны дзяжурны дае даслоўна такі ж самы адказ, некаторыя, праўда, апускаюць вочы долу», — распаўсюдзіла інфармацыю прэс-служба «Маладога фронту».

Маладых людзей вінавацяць у брыдкаслоўі, адпраўляюць на суткі арышту. Як распавялі затрыманыя праз адваката, супрацоўнікі КДБ падчас допытаў у цэнтры ізаляцыі адкрытым тэкстам паведамілі маладафронтаўцам: «Будзеце сядзець, пакуль не з'едзе Пуцін!». Акурат як у 1980 годзе, калі ў Маскве праводзілі Алімпіяду. Тады за 101-ы кіламетр ад Масквы выселілі ўсіх, хто мог папсаваць лоск СССР — дысідэнтаў, прастытутак, бамжоў. Цікава, чаму ў беларускім варыянце ўлады спыніліся на першым пункце? Відаць, для іміджу нашай краіны як найлепшага саюзніка Расіі найбольш страшныя людзі, што гавораць па-беларуску ды ладзяць акцыі пад нацыянальнымі сцягамі.

Актывіст «Маладога фронту» Іван Шыла ў сваім блогу піша: «Мне ўжо цяжка падлічыць, колькі за апошнія паўгады адсядзелі мае паплечнікі з «Маладога фронту» Паша Вінаградаў і Наста Шулейка. І справа не ў тым, што яны часта трапляюць у спецпрыёмнікі, а ў апошніх тэндэнцыях, калі пасля «сутак» людзі адтуль проста не выходзяць, а застаецца на новы тэрмін. Відаць, улады замест крымінальных справаў цяпер будуць выкарыстоўваць «бясконцыя суткі». Яно і зразумела: успрыняцце арыштаў нівеляванае, пра гэта не пішуць, на гэта не рэагуюць, актывістаў сустракаюць толькі блізкія сябры. І такія вось адвольныя арышты — вельмі небяспечная тэндэнцыя».

Гаворачы пра нівеляванасць, Іван Шыла мае рацыю, у апазіцыйным асяродку ніхто не выступіў з заявамі ці нейкімі публічнымі акцыямі ў падтрымку маладафронтаўцаў, якія, па сутнасці, ёсць паплечнікамі тых, хто пнецца прабіцца ў вялікую палітыку. Толькі ў такім разе, можа, варта было гаварыць больш канкрэтна — пра абыякавасць, напрыклад...

Такім чынам Уладзімір Пуцін, якога свет прызнае жорсткім, аўтарытарным кіраўніком, едзе да свайго калегі. І калега належным чынам яго сустракае. На гэтым тыдні Васіль Парфянкоў, актывіст штабу экс-кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева, быў прызнаны вінаватым у парушэнні ўмоваў прафілактычнага нагляду і асуджаны да шасці месяцаў арышту. Адбываць пакаранне актывіст мусіць у арыштным доме, умовы ўтрымання ў якім больш мяккія ў параўнанні з калоніяй. 27-гадовы Парфянкоў — першы асуджаны па справе аб масавых беспарадках 19 снежня 2010 года, піша БелаПАН.

Летась Парфянкова прызналі вінаватым ва ўдзеле ў масавых беспарадках і прысудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму. Асуджаны адбываў пакаранне ў Аршанскай папраўчай калоніі. 11 жніўня 2011 Васіль Парфянкоў быў памілаваны ўказам Лукашэнкі. Такая схема чаўночнага бегу паміж статусамі «палітвязень» і «экс-палітвязень». Праваабаронцы лічаць крымінальны пераслед Парфянкова «выключна палітычна матываваным, звязаным з імкненнем уладаў спыніць яго актыўнасць, а таксама з жаданнем запалохаць іншых палітычных і грамадскіх актывістаў напярэдадні парламенцкіх выбараў».

Але гэтых мужных маладых змагароў не скарыць, не стрымаць і не спыніць. Выступаючы з апошнім словам, Васіль Парфянкоў заявіў: «Якім бы ні было рашэнне суда, я выйду з гэтай залі свабодным чалавекам».

На сустрэчы з Пуціным Лукашэнка не будзе гаварыць пра свабоды і правы. Для Беларускага кіраўніка актуальныя не людзі, а грошы, крэдыты, нафта, газ ды іншыя даброты, што падаюжаць жыццё рэжымам.

СУД

# ТРЫ МІЛЬЁНЫ ЗА РЫДЛЁЎКІ

**Суд Слуцкага раёна прысудзіў грамадскую актывістку Зінаіду Цімошак да сплаты 3 мільёнаў 220 тысяч рублёў.**

Суддзя Святлана Пастухова пастанавіла спагнаць з Зінаіды Цімошак 700 тысяч рублёў на карысць кожнага з чатырох дэпутатаў. Апроч гэтага актывістцы давядзецца заплаціць і дзяржпошліну — агулам на 420 тысяч рублёў (4 разы па 105000).

Нагадаем, 1 кастрычніка на суботніку, які адбыўся на старых могілках па вуліцы 14 Партызанаў, для загадзя запрошаных дэпутатаў нехта выставіў на могілках рыдлёўкі. На чаранках іх былі прымацаваныя таблічкі з надпісамі дэпутатаў. Ім гэтыя рыдлёўкі з надпісамі падаліся крыжамі.

Праз месяц Зінаіду Цімошак абвінавацілі ў тым, што яна «наўмысна зняважыла гонар і годнасць дэпутатаў у непрыстойнай форме». Таму ў Слуцку па адміністрацыйнай справе супраць Зінаіды Цімошак адбыліся ўжо чатыры судовыя пасяджэнні.

«Гэты суд я ацэньваю як працэс па Канавалаву — калі чалавека «заказваюць» і не зважаюць нават, хто вінаваты, хто невінаваты. Шмат якія абвінавачванні завісаюць проста ў паветры, а чалавека караюць. Ніякіх доказаў маёй віны ў судовай залі ўвогуле не прагучала. Я павінна буду выплачваць вялікія грашовыя спагнанні, хоць невінавата ў тым, у чым мяне абвінавачвалі. На нашым працэсе вельмі добра была відаць наша несправядлівая судовая сістэма, — сказала Зінаіда Цімошык. — Людзей прыйшло даволі шмат — было больш за 70 чалавек у залі. Не хапала месцаў, прынеслі яшчэ дадатковыя лаўкі. Судовая зала была падзеленая, мусіць, так, як падзеленая наша Беларусь: з аднаго боку сядзелі прыхільнікі ўлады, дэпутаты раённага савету, магчыма, таксама прадстаўнікі райвыканкаму, а з другога боку сядзеў ужо люд, які прыйшоў мяне падтрымаць. У мяне было шмат сведкаў — я парадавалася, што аж пяць чалавек выступала. А з таго боку не маглі даць ніякіх доказаў, акрамя таго, што яны нешта бачылі, самі не былі, не прысутнічалі, не ведаюць, нехта ім сказаў — і ўсё на гэтым. Ніякіх дакументаў, каб даказаць, што яны сапраўды маральна пацярпелі, што былі нейкія пакуты. Усё было галаслоўна, толькі галаслоўныя абвінавачванні».

**Паводле Радыё «Свабода»**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# «ВЯСНА» ПАТРАБУЕ СПЫНІЦЬ ПЕРАСЛЕД

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» асуджае незаконнае прыцягненне да адміністратыўнай адказнасці ў выглядзе арыштаў моладзевых актывістаў Міхаіла Мускага, Зміцера Крэменецкага, Рамана Васільева, Мікалая Дземідзенкі, Паўла Вінаградава, а таксама праваабаронцу Алега Волчака.**

«Канстатуем, што ў Беларусі ўкаранілася ганебная практыка прыцягнення да адміністратыўнай адказнасці ў выглядзі адміністратыўнага арышту грамадскіх актывістаў», — гаворыцца ў заяве праваабаронцаў.

«Мы заяўляем, што сістэматычнае асуджэнне грамадскіх дзеячаў на падставе сфальсіфікаваных матэрыялаў аб адміністратыўным правапарушэнні за дробнае хуліганства з'яўляецца злачыннай формай адвольных затрыманняў. Прыкра, што ў гэты незаконны пераслед уцягнутыя не толькі органы ўнутраных спраў, але і суды, якія выносяць прысуды на падставе непраўдзівых матэрыялаў».

Так, Міхаіл Мускі, Зміцер Крэмянецкі, Мікалай Дземідзенка агулам толькі за вясну 2012 года незаконна былі асуджаныя на 37 сутак адміністратыўнага арышту, а Павал Вінаградаў і Алег Волчак двойчы асуджаліся на падставе сфальсіфікаваных супрацоўнікамі міліцыі матэрыялаў», — падкрэсліваецца ў заяве.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» лічыць, што ўсе ўзгаданыя асобы незаконна і неаднаразова пазбаўляліся волі на працяглы тэрмін, і таму могуць на перыяд свайго затрымання лічыцца палітычнымі вязнямі. Іх пераслед носіць выключна палітычны характар і звязаны з іх грамадска-палітычнай дзейнасцю.

«Вясна» настойліва патрабуе: неадкладнага спынення практыкі адміністратыўнага пераследу і незаконнага асуджэння грамадскіх актывістаў па сфальсіфікаваных абвінавачваннях; прыцягнення да адказнасці ўсіх службовых асоб, вінаватых у незаконных асуджэннях; кампенсацыі страты здароўя і маральных пакутаў усім незаконна асуджаным.

**spring96.org**

ЦІКАВА

# ЯШЧЭ АДЗІН ІНСТЫТУТ

**Марат ГАРАВЫ**

**29 мая ў Мінску адбылася прэзентацыя грамадскага Інстытута беларускай гісторыі і культуры (ІБГіК), 28 сакавіка зарэгістраванага ў Латвіі.**

Як паведаміў дырэктар ІБГіК, магістр эканомікі Віктар Яўмененка, інстытут працуе пад дэвізам «Беларусь перад усім» і з'яўляецца недзяржаўнай, непалітычнай і некамерцыйнай арганізацыяй грамадзян, якія аб'ядналіся з мэтай вывучэння і папулярызацыі беларускай гісторыі і культуры сярод айчыннай грамадскасці і дыяспары. Паводле яго слоў, ІБГіК створаны шляхам аб'яднання рэдакцый, аўтараў дайджэсту публікацый па беларускай гісторыі «Дзяды» і актывістаў моладзевага грамадскага аб'яднання «Правы альянс» на аснове хрысціянскіх традыцый у развіцці нацыянальнай культуры.

Сярод задач інстытута яго дырэктар назваў публікацыю альманаха «Дзяды», манаграфій і зборнікаў артыкулаў даследчыкаў айчыннага мінулага, у тым ліку гісторыкаў і краязнаўцаў, плакатаў і каляндароў, прэзентацыю новых выданняў, арганізацыю лекцый, навучальных курсаў, абмеркаванняў, канферэнцый, семінараў, сустрэч і конкурсаў, падтрымку культурна-гістарычных праектаў і аб'яднанняў, у тым ліку клубаў гістарычнай рэканструкцыі, садзейнічанне навуковым даследаванням у галіне гісторыі і культуры, аднаўленне страчаных помнікаў, стварэнне музеяў і мемарыялаў, а таксама генерацыю новых ідэй.

Інстытут вядзе працу па сямі напрамках, у тым ліку па выданню кніг з серыі «Невядомая гісторыя», падрыхтоўцы відэакурсу лекцый па айчыннай гісторыі, арганізацыі інтэрнэт-сайту inbelhist.org і лекцыйнай дзейнасці ў гарадах Беларусі, стварэнню галерэі фотапартрэтаў сучасных дзеячаў беларускай культуры і рэканструкцыі аблічча старажытных жыхароў Беларусі.

Паводле слоў навуковага сакратара інстытута, прафесара Анатоля Тараса, у сваёй дзейнасці ІБГіК выходзіць з ідэі вялікага расійскага фізіёлага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі 1908 года Івана Паўлава пра прызначэнне інтэлігенцыі, якое заключаецца ў тым, каб выхоўваць народ у нацыянальным духу, а не рэвалюцыянізаваць яго. «Акрамя таго, мы зыходзім з думкі, што галоўным фактарам у фармаванні нацыянальнай свядомасці найбольш актыўных прадстаўнікоў грамадства з'яўляецца не беларуская мова, а веданне свайго мінулага», — падкрэсліў Тарас.

ПАМЯЦЬ

# УШАНАВАННЕ Ў КУРАПАТАХ

**Марат ГАРАВЫ**

**29 мая ў Курапатах адбылося традыцыйнае ўшанаванне ахвяраў сталінізму. У ім удзельнічалі актывісты аргкамітэта па стварэнню руху «Разам», малебнаў за вызваленне палітычных зняволеных, гісторыка-асветнага, дабрачыннага і праваабарончага таварыства «Мемарыял».**

Намеснік старшыні аргкамітэту па стварэнню Руху салідарнасці «Разам», актывіст прадпрымальніцкага руху Аляксандр Макаеў адзначыў, што 65 разоў з 2007 года штомесяц збіраюцца людзі ў Курапатах, каб грамадства не забывала ахвяраў таталітарызму і не дапусціла падобнай трагедыі.

Удзельнік абароны Курапатаў беларускай моладдзю ў 2001–2002 гадах, былы палітвязень Васіль Парфянкоў падзякаваў усім, хто сабраўся ва ўрочышчы, і выказаў надзею, што прыйдзе час, калі ў Курапатах будуць збірацца тысячы беларусаў, паўстануць храмы розных канфесій і велічны мемарыял: уздоўж галоўнай алеі — марморовыя крыжы з імёнамі ўсіх закатаваных бязвінных людзей, а міліцыя не будзе стаяць за людзьмі і слухаць, што яны кажуць, каб дакладаць свайму начальству, а будзе стаяць побач, як частка адзінага беларускага народа.

«Я сама з сялянскага роду, ад якога пасля высялення з 30 чалавек засталіся ў жывых толькі я і мама», — адзначыла былы вязень ГУЛАГу, старшыня ГА «Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій» Зінаіда Тарасевіч. — Потым бальшавіцкія органы НКУС пачалі праводзіць селекцыю беларускай нацыі і вынішчылі яе лепшых сыноў і дачок. І да гэтага часу дзяржава не пакаялася за злачынствы сваіх папярэднікаў і не ўшанавала памяць тысяч бязвінных людзей, якія ляжаць не толькі ў зямлі Беларусі».

Грамадскі актывіст Ганна Шапуцька адзначыла, што ўзяты курс на зачышчэнне палітычнай прасторы краіны і падаўленне найбольш актыўнай часткі арганізаванай беларускай моладзі, якая стаіць на нацыянальна-дэмакратычных пазіцыях. «І каб не дапусціць новых Курапатаў, нам трэба навучыцца больш уважліва слухаць адзін аднаго і быць адзінымі. Бо ніхто, акрамя беларусаў, не зробіць за нас справу адраджэння вольнай, дэмакратычнай і па-сапраўднаму незалежнай Беларусі», — сказала Шапуцька.

За ўшанаваннем наглядалі пяць супрацоўнікаў міліцыі ў форме і цывільным.

Чарговае памінанне ў Курапатах адбудзецца 29 чэрвеня ў 18.00.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# КРАЯЗНАЎЧЫ ФЭСТ

**Аляксей ХАДЫКА**

**Працягваючы ажыццяўленне праекту «Захаванне гістарычнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці», 28 мая ТБМ арганізавала ў сценах Нацыянальнага гістарычнага музея ў Мінску краязнаўчы фестываль.**

Падзея насіла не толькі навуковы, але і практычны характар. Вырашалася пытанне, як краязнаўцы ў сваёй штодзённай дзейнасці здольныя захаваць каштоўныя аб'екты старадаўняй і традыцыйнай культуры. Размова ішла як пра матэрыяльную, так і нематэрыяльную спадчыну, таму частка сустрэчы ў Мінску адводзілася выступленням народных калектываў, якія з'яўляюцца непасрэднымі носьбітамі аўтэнтычнага спеўнага, танцавальнага і абрадавага фальклору.

У Беларусі, у адрозненне ад яе еўрапейскіх суседзяў, яшчэ захоўваюцца ўнікальныя мясціны, дзе фальклорная спадчына натуральным шляхам перадаецца з пакалення ў пакаленне. Непаўторнасць народных традыцый засведчылі на фестывалі госці з Бешанковіч на Віцебшчыне і дзвюх суседніх вёсак Веткаўскага раёна на Гомельшчыне — Свяцілавічы (дзіцячы гурт «Задорынка») і Стаўбун (фальклорна-этнаграфічны гурт «Стаўбунскія вячоркі»). Першыя паказалі ўзоры валачобных абрадаў — веснавых віншавальна-велічальных спеваў, другія ўразілі выкананнем цыклу абрадавых і каляндарных нумароў, густоўнай танцавальнай праграмай.

Вітаючы прысутных, начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Беларусі Ігар Чарняўскі зазначыў, што дзяржава, безумоўна, зацікаўленая ў дапамозе краязнаўцаў у розных формах. Ёсць прыклады ўдалай працы па аднаўленні замка ў Любчы, чакаюць уратавання такія знакавыя помнікі, як замкі ў Гальшанах і Крэве. Гутарка вялася пра традыцыі беларускай талакі і спосабы арганізацыі сучаснага валанцёрскага руху — у формах летнікаў і будаўнічых атрадаў. Што датычыць пашырэння кантактаў краязнаўцаў, пошуку новых людзей, то эфектыўным спосабам працы тут з'яўляюцца развіццё турызму, правядзенне пазнавальных адукацыйных конкурсаў, выданне даведачнай літаратуры. І як вынік — дасягненне адзінства беларускага краязнаўчага руху ў форме нацыянальнага таварыства.

Першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім у каментары для НЧ адзначыла важнасць рэгулярных сустрэч і супрацоўніцтва актывістаў краязнаўчага руху з усіх куткоў Беларусі: «Падняць нашу спадчыну можна толькі агульнымі намаганнямі і толькі тады, калі высілкі будуць рабіцца непасрэдна людзьмі з рэгіёнаў».

Станоўчая тэндэнцыя ў агульнай працы на будучыню — дасягненне ўзаемаразумення і добразычлівага дыялогу грамадскасці і дзяржаўных органаў, што засведчыў фестываль. Ахвотных далучацца да канкрэтнай дзейнасці ТБМ запрашае шукаць інфармацыю на сваім сайце www.tbm-mova.by.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# РАСІІ — ПАКЛОН, ЗАХАДУ — ПАЛІТВЯЗЕНЬ

Генадзь КЕСНЕР

**Даўно беларускія вышэйшыя чыноўнікі не выказвалі столькі кампліментаў на адрас сваіх расійскіх візаві. А вось з Захадам пакуль што неяк не складваецца, хоць праглядаюцца кепска прыхаваныя патугі афіцыйнага Мінска вярнуцца да дыялогу з Брусэлем.**



Увесь апошні час большасць размоваў у краіне вялася вакол першага на новай-старой пасадзе замежнага візіту кіраўніка Расіі Уладзіміра Пуціна. Нягледзячы на чуткі, што сваю першую замежную паездку новаабраны ўладар Крамля можа здзейсніць у Астану, расійскі «нацыянальны лідар» усё ж вырашыў ашчаслівіць сталіцу «братняй» Беларусі. Такім чынам, лічаць эксперты, Крэмль дае зразумець, што на сённяшні дзень менавіта Мінск з'яўляецца яго галоўным стратэгічным партнёрам. Да таго ж, і Саюзную дзяржаву Беларусі і Расіі пакуль што ніхто не адмяняў. Адным словам, усё адно да аднаго.

Вось і расійскі прэм'ер Дзмітры Мядзведзеў падчас сустрэчы са сваім беларускім калегам Міхалам Мясніковічам у Ашгабадзе 29 мая, напярэдадні пасяджэння Савета кіраўнікоў урадаў краін СНД, выказаў меркаванне, што «расійска-беларускія стасункі сёння перажываюць вельмі добрыя часы». Мядзведзеў дадаў, што візіт у Беларусь Уладзіміра Пуціна «ёсць гістарычнай падзеяй для развіцця стасункаў паміж дзяржавамі, бо гэта яго першы замежны візіт на пасадзе прэзідэнта». (Быццам раней Пуцін на гэтай жа пасадзе не наведваў сталіцу Сінявокай!). На што Мясніковіч адказаў, што Беларусь зараз вельмі актыўна рыхтуецца да гэтага візіту. Візіту Пуціна, магчыма, стане вядома, ці ўдалося расійскаму боку дабіцца ад Лукашэнкі продажу нейкай часткі беларускага «фамільнага срэбра».

А тым часам былы кандыдат у прэзідэнты Беларусі Дзмітрый Вус звярнуўся да Уладзіміра Пуціна з адкрытым лістом, у якім сцвярджае, што беларускі кіраўнік «будзе ўсяляк перашкаджаць рэалізацыі праекта Мытны саюз — Адзіная эканамічная прастора». «Немагчыма стварыць АЭП Расіі, Казахстана і Беларусі з наступным стварэннем Еўразійскага саюза, калі ў Беларусі не выконваюцца асноўныя ўмовы для стварэння АЭП: свабоднае перасоўванне тавараў, паслуг, працоўнай сілы і капіталу, — піша Вус. — Прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнэсу Расіі пры адкрыцці рахункаў і фірм у Беларусі адразу трапляюць у поле зроку беларускіх спецслужбаў, якія поўнасцю ўплываюць на іх бізнэс». «Вядомы выпадкі поўнага спусташэння расійскіх фірм у Беларусі. Беларусі суд, як і спецслужбы, з'яўляецца рычагом уціску на бізнэс. Судовыя рашэнні выносяцца па званку з Адміністрацыі прэзідэнта і спецслужбаў рэжыму», — гаворыцца ў лісце Вуса Пуціну. Пры гэтым спадар Вус чамусьці лічыць, што «простыя грамадзяне Беларусі падтрымліваюць Мытны саюз, бо ён з'яўляецца «залогам росквіту нашай краіны». дзяржавы як звязуючага звяна», — адзначыў беларускі кіраўнік.

Нешта мне падказвае, што місіянерская роля беларускай дзяржавы ў пытанні «інтэграцыі інтэграцый» крыху перабольшаная. Да таго ж, вядома, як да беларускага кіраўніцтва ставяцца сёння ў пераважнай большасці еўрапейскіх краінаў. Існуюць спісы неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза беларускіх чыноўнікаў, Еўропа настойліва патрабуе вызвалення ўсіх палітвязняў і спынення пераследу апанентаў дзеючай улады і незалежных сродкаў масавай інфармацыі. А што тым часам робіцца на ўсход ад Буга? У Беларусі працягваюцца арышты апазіцыйных дзеячаў, пераслед праваабаронцаў і, як апошні штрых, — з'явіўся яшчэ адзін палітвязень.

29 мая суд Першамайскага раёна Мінска прыгаварыў актывіста грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Васіля Парфянкова да шасці месяцаў арышту. Парфянкова абвінавацілі ў парушэнні ўмоваў прэвентыўнага нагляду. Васіль падчас апошняй выбарчай кампаніі ўваходзіў у каманду кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева і стаўся першым асуджаным па справе аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года. Як сцвярджаў пракурор Сцяпурка, Парфянкоў парушаў умовы нагляду. У выніку — на паўгода за краты. Дык што, гэта крок насустрач дыялогу з Захадам? Хутчэй, гэта месідж Еўропе, што цісніць на афіцыйнага беларускага кіраўніка, які, па выказванні Някляева, «хоча — карае, хоча — мілуе», бессэнсоўна.

А з 1 чэрвеня чарговая «дробная непрыемнасць» чакае шараговых грамадзян. Для аматараў папаліць паведамім, што павялічыцца кошт на некаторыя тытунёвыя вырабы ад 3 да 50 працэнтаў. Таксама ў гэты ж дзень «з улікам росту даходаў насельніцтва» ўзрастуць расцэнкі на паслугі ЖКГ (пастанова Савета Міністраў № 486 ад 28 мая 2012 года). Згодна з гэтай пастановай, плацяжы сям'і з трох чалавек, якая пражывае ў тыпавой двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 квадратных метраў, з улікам ацяплення павялічацца на 17 тысяч рублёў, альбо на 8,6%, у тым ліку на цеплавую энергію для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння — на 10 тысяч рублёў, на паслугі водазабеспячэння і каналізацыі — на 7 тысяч рублёў. І не забудземся, што ў чэрвені яшчэ на 5% падаражэе хлеб. Гэта толькі тое, што мы ведаем дакладна. А колькі яшчэ можа быць сюрпрызаў у нашай «стабільнай і квітнеючай», ведае адзін Усявышні. І магчыма, той, хто «крыху вышэй за яго».

### З 1 чэрвеня павялічыцца кошт на некаторыя тытунёвыя вырабы ад 3 да 50 працэнтаў. Таксама «з улікам росту даходаў насельніцтва» ўзрастуць расцэнкі на паслугі ЖКГ

Хто б сумняваўся. Бо нават Аляксандр Лукашэнка даручыў падначаленым добра падрыхтавацца да прыезду Уладзіміра Уладзіміравіча. Ужо вядома, што адным з пытанняў, якія афіцыйны беларускі кіраўнік прапануе для абмеркавання свайму расійскаму калегу, — гэта перспектывы развіцця ЗАТ «Беларуская калійная кампанія». Не выключана, што са сваімі прапановамі да нас едзе і Пуцін, бо пытанне прыватызацыі смачных кавалкаў беларускай дзяржаўнай маёмасці з парадку дня ніхто не здымаў.

І разглядацца гэта пытанне, верагодна, будзе ў кантэксце прадастаўлення Беларусі чарговага траншу крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС у памеры 440 мільёнаў долараў, які мусіў паступіць яшчэ ў лютым. Дарэчы, згодна з умовамі гэтага крэдытавання, сёлета Беларусь павінна прадаць маёмасці на 2,5 мільярда долараў, але прайшло паўгода, а нічога пра нейкія буйныя продажы не чуваць. Пасля Пакінем гэтае меркаванне на сумленні экс-кандыдата ў прэзідэнты. Дарэчы, а чаму Вуса цікавіць лёс толькі расійскіх бізнэсоўцаў? А нашы што — у лепшым становішчы?

А вось у заходнім накірунку беларускае кіраўніцтва ніякіх пазітыўных рухаў пакуль не робіць, хоць галоўны беларускі чыноўнік заяўляе пра шматвектарнасць айчыннай палітыкі. Мала таго, Аляксандр Лукашэнка 25 мая ў Полацку зноў паўтарыў сваю ідэю стварэння адзінай прасторы ад Лісабона да Уладзівастока. «Беларусь — гэта не задворкі Еўропы, а брама ў ЕўраАзію, ключ да практычнага ажыццяўлення ідэі інтэграцый інтэграцый. Бо аб'яднанне патэнцыялаў Еўрапейскага і Еўразійскага саюзаў дазволіць стварыць новыя магчымасці для дынамічнага развіцця і ўсебаковага супрацоўніцтва краін і народаў двух кантынентаў. Менавіта ў прасоўванні гэтай ідэі мы бачым найважнейшую місію і геапалітычную ролю нашай

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!



Анімацыйны фільм «Будзьма беларусамі!» атрымаў золата ў намінацыі «анімацыя» і бронзу ў намінацыі «рэжысура» Кіеўскага міжнароднага фестывалю рэкламы.

За амаль год «жыцця» анімацыйны фільм стаў сапраўднай візітнай карткай Беларусі ў свеце. Анімацыя была ўзнагароджаная на фестывалях One Short Film Fest 2012 (1-е месца ў намінацыі «анімацыя»), AD.NAK!–2011 (Гранпры фестывалю), «Белы Квадрат 2012» (1-е месца ў сацыяльнай рэкламе) і Uzupis International Film Festival 2011 (спецыяльная ўзнагарода). Фільм дэманстраваўся на фестывалях KROK International Animation festival 2011, Varna International Animation festival 2011, Balkanima International Animation festival 2011, ANIMEST International Animation festival 2011.

Грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!» спрыяе пазітыўным пераменам у беларускім грамадстве, адной з якіх з'яўляецца пераадоленне яго раз'яднанасці праз узмацненне нацыянальнай ідэнтычнасці. Паводле меркавання сацыёлагаў, Беларусь — краіна «малых, замкнёных сацыяльных груп». Адным са стэрэатыпаў грамадскай свядомасці, які замінае кансалідацыі, з'яўляецца меркаванне пра нібыта ўласцівую беларусам «памяркоўнасць», што ўспрымаецца як пасіўнасць, адсутнасць актыўнай грамадскай пазіцыі, а таксама меркаванне пра тое, што ў беларусаў гісторыя пачынаецца толькі з 1917 года.

Менавіта дзеля пераадолення гэтых стэрэатыпаў і быў створаны анімацыйны фільм «Будзьма беларусамі!». Пачынаючы з 28 мая 2011 года фільм сабраў больш за 1 мільён праглядаў на розных відэахостынгах. Аўтары фільму — Юлія Ляшкевіч, Юлія Рудзіцкая, саўндтрэк выканаў Аляксандр Памідораў.



### ВАСІЛЬ СПІРЫДОНАЎ

Федэрацыя хакею Беларусі назвала лепшым трэнерам краіны Васіля Спірыдонава, настаўніка каманды «Металург–Жлобін». Сёлета жлобінскія хакеісты пад яго кіраўніцтвам выйгралі ўсе асноўныя турніры — Кубак Беларусі, рэгулярны чэмпіянат, а таксама сталі ўладальнікамі Кубка прэзідэнта.

Спірыдонаў прыняў «Металург» у студзені 2010 года, і каманда паказала добрыя вынікі ўжо ў сезоне 2011–2012: яго падапечныя ўдзельнічалі ў фінале Кубка Беларусі, дзе саступілі мінскаму «Юнацтву», а затым сталі бронзавымі прызёрамі чэмпіянату ў экстралізе.

Лепшы трэнер краіны працягне працу ў «Металургу» ў наступным сезоне, калі трэба будзе абараняць гонар Беларусі ў Кантынентальным кубку ІІХФ.

### СЯРГЕЙ ЛАЗНІЦА



Фільм «У тумане», зняты рэжысёрам Сяргеем Лазніцам паводле аповесці Васіля Быкава, уганараваны прызам міжнароднай федэрацыі кінакрытыкі FIPRESCI.

У нядзелю, 27 ліпеня, журы назаве пераможцаў асноўнага конкурсу, лаўрэатаў «Залатой пальмавай галінкі». Фільм «з беларускімі каранямі» "У тумане" не карыстаецца папулярнасцю ў букмекераў, аднак рашэнне фестывальнага журы непрадказальнае, піша Радыё «Свабода». 25 мая адбылася прэм'ера фільму ў Канах. Сяргей Лазніца выйшаў на чырвоную дарожку пад песні Касі Камоцкай.

«Канская зала сустрэла карціну стрыманымі, але зусім не кароткімі апладысментамі. Абураліся ў асноўным расійцы: маўляў, аўтар абяцаў, што зробіць нешта супрацьлеглае ўсёй савецкай і постсавецкай традыцыі ваеннага кіно, а сам зняў звычайную драму на зададзеную тэму, ды яшчэ і з літаратурнымі дыялогамі.

Сапраўды, мова Быкава сёння гучыць і архаічна, і ўмоўна, але якраз гэта аддзяляе «У тумане» ад шматлікіх фільмаў-папярэднікаў.

Перад намі амаль тэатральная п'еса пра трох персанажаў — у пошуках аўтара або ў чаканні Гадо.

У кожнага свая мэта не толькі ў жыцці, але і ў гэтай канкрэтнай сітуацыі: бессюжэтнасць манатоннага паходу траіх знясіленых і заблукалых людзей праз лес кампенсуецца падрабязнымі флэшбэкамі», як піша кінакрытык Антон Долін для gazeta.ru.

Рэжысёр Сяргей Лазніца нарадзіўся ў Баранавічах, але ў хуткім часе яго бацькі пераехалі ва Украіну. У сябе рэжысёр налічыў кроў 16-ці нацыянальнасцяў, ён не атаясамлівае сябе з канкрэтнай краінай ці народам, ён — сучасны чалавек-касмапаліт.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПРАЦЭС ПАЙШОЎ

Сяргей НІКАЛЮК




**Палітыка «перапрацоўкі насельніцтва ў асабісты дабрабыт», якую праводзіць Пуцін і К°, блізкая да вычэрпвання.**

Паводле ЦВК, 4 сакавіка за Пуціна прагаласавала 45 602 075 расіян, аднак ніводны з іх не выйшаў павітаць свайго прэзідэнта ў дзень інаўгурацыі на вуліцы Масквы. А калі б і выйшаў, то меў рэальны шанец атрымаць дубінкай па галаве. Аналагічным чынам 200 гадоў таму ў Крэмль уязджаў Напалеон.

У адной з апошніх «азбук паліталогіі» я адзначаў, што палітычныя рэжымы кшталту расійскага можна смела адносіць да акупацыйных. Многія аналітыкі 7 мая звярнулі на гэта ўвагу. Абмяжуюся адной цытатай: «Інаўгурацыя Пуціна зрабіла вельмі сумнае ўражанне: відовішча цяжкага картэжу, які пераможна нясецца па пустых сталічных вуліцах, занадта нагадвала акупацыйнае мерапрыемства — прычым у майскія святочныя дні гэта асабліва навязліва кідалася ў вочы» (Сяргей Егішанц, фінансавы аналітык).

## Дзяржава бюджэтных патрыётаў

Прэзідэнт Расіі — «гарант Канстытуцыі, правоў і свабодаў чалавека і грамадзяніна». Так абвяшчае 80-ы артыкул асноўнага закона краіны. Але ці ў стане Пуцін даць рады ролі гаранта? Існуе сур'ёзная нагода ў гэтым усумніцца. Сам факт абрання Пуціна на трэці тэрмін супярэчыць Канстытуцыі. Паводле артыкула 81-га, адна і тая ж асоба не можа знаходзіцца на пасадзе прэзідэнта Расіі больш за два тэрміны запар. Гэтыя два тэрміны для Пуціна мінулі ў 2008 годзе. Яшчэ 5 лістапада 1998 года Канстытуцыйны суд растлумачыў, што два тэрміна запар — гэта мяжа, і ніякага трэцяга тэрміну пасля перапынку быць не можа. У 2001 годзе 25 студзеня Вярхоўны суд пацвердзіў гэта. У 2009 годзе быў апублікаваны каментар пад рэдакцыяй Зоркіна, цяперашняга старшыні Канстытуцыйнага суда, і прафесара Лазарава, найбуйнейшага спецыяліста па канстытуцыйным праве Расіі. Каментар змяшчае тыя ж высновы.

24 мая Цэнтр стратэгічных распрацовак (ЦСР) апублікаваў свой чарговы даклад. Неабходна растлумачыць, што гэтая аналітычная структура не была заўважана ў схільнасці падыгрываць апазіцыі. Яе Назіральную раду ўзначальвае не апошні чалавек ва ўладнай іерархіі — кіраўнік Ашчадбанка Герман Грэф. Асноўная ідэя шматстаронкавага дакладу — у расійскім грамадстве актыўна фармуецца запыт на змены, спіс якіх узначальвае забеспячэнне асабістай бяспекі і вяршэнства закона.

Закон, нароўні з Сілай і Верай, належыць да базавых элементаў, якія кансалідуюць вялікія супольнасці. Спецыфіка Расіі палягае ў тым, што ў згаданай тройцы Закон заўсёды адыгрываў дапаможную ролю. Пры гэтым ён так і не ператвараўся ў інструмент абароны натуральных — г. зн. дадзеных ад прыроды — правоў і свабодаў грамадзян, а працягвае служыць прыладай абароны кіроўнага класа.

Яго прадстаўнікі і віталі Пуціна ў Крамлі апладысментамі. Там не было выпадковых людзей з вуліцы. Як адзначыў нядаўна адхілены ад галоўнага «цела» паліттэхнолаг Глеб Паўлоўскі, Пуцін стварыў умовы для ўзбагачэння людзей, значная частка з якіх — яго знаёмыя. Ён асабіста прымаў рашэнні, каго прызначаць мільярдэрамі. Свае капіталы яны нажылі галоўным чынам за кошт засваення бюджэтных рэсурсаў. Ці варта пасля гэтага дзівіцца, што «яны, — паводле трапнай заўвагі Паўлоўскага, — палюбілі дзяржаву, яны — бюджэтныя патрыёты, яны — вялікія бюджэтныя патрыёты».

Пасняховасць палітыкі Пуціна па вырошчванні бюджэтных патрыётаў дэманстраваў склад папярэдняй Думы, сярод 450 дэпутатаў якой было 49 мільянераў і 6 мільярдэраў. Няцяжка здагадацца, якой якасці прававы прадукт выходзіў з-пад асадак выразнікаў народных інтарэсаў, падабраных такім арыгінальным чынам. Але калі законы не маюць усеагульнага характару, то яны ператвараюцца ў інструмент самаўпраўства. Расійскаму грамадству спатрэбілася 12 пуцінскіх гадоў, каб усвядоміць гэту аксіёму.

## Хто ж адмовіцца ад дармаўшчыны?

Сярод аналітыкаў існуе папулярнае меркаванне, што пасля «ліхіх дзевяностых» Пуцін здолеў умацаваць дзяржаву, і гэтым ён завяваў падтрымку «большасці». Прызнаюся, і мне імпанаваў такі погляд на прычыну палітычнага даўгалецця Пуціна. Палітолаг Ірына Бусыгіна дапамагла мне па-новаму зірнуць на, здавалася б, агульнапрынятую ісціну. Дам слова ёй: «Мы часта кажам, што з моманту прыходу Пуціна ў нас змяніўся характар дзяржавы. У нас дзяржава была слабай, неэфектыўнай, дзяржава наогул не мела рычагоў кантролю за тым, што адбываецца ў рэгіёнах. З прыходам Пуціна дзяржава стала моцнай, эфектыўнай і інш. Гэта зусім не так. У нас змяніўся не характар дзяржавы, яна такая ж слабая, такая ж неэфектыўная і яшчэ больш карумпаваная. Што змянілася? Змяніўся аб'ём тых рэсурсаў, якія апынуліся ў распараджэнні гэтай дзяржавы».

Ельцын прапанаваў мясцовым элітам браць суверэнітэту стольні, колькі яны змогуць пераварыць. А што ён мог прапанаваць ім пры кошце нафты не больш за 10 долараў за барэль? У Пуціна прынцыпова іншыя магчымасці, але максімум, чаго ён сёння здольны дамагчыся, — гэта электаральнай лаяльнасці. Формула яе простая: рабі на выбарах вынік такім, як я хачу, і каб у рэгіёнах было «ціха». На астатняе я гатовы заплюшчыць вочы.

Калі рост прыбыткаў беларусаў у «нулявыя» гады забяспечваўся за кошт расійскіх датацый і знешніх запазычанняў (да апошніх дзяржава стала актыўна звяртацца пасля 2007 года), то расійскія зарплаты і пенсіі раслі на прыроднай рэнце. З 1999 па 2008 гады сярэднегадавыя тэмпы росту нафтагазавай рэнты ў Расіі складалі 26,6%. У студзені 2012 года на сыравіну і неапрацаваныя прадукты прыйшлося 88% экспарту. Вось вынік будаўніцтва Энергетычнай дзяржавы. Як гаворыцца, за што змагаліся…

Такая крыніца росту матэрыяльнага дабрабыту ўсіх задавальняла. Хто ж адмовіцца ад дармаўшчыны! Вынік апынуўся прадказальным: у дзяржавы і грамадства паўстала своеасаблівая «нарка(рэнта)залежнасць». Для далейшага росту прыбыткаў (а без яго сацыяльную стабільнасць не ўтрымаць) неабходны дадатковыя дозы сыравіннай рэнты. Аднак сусветны эканамічны крызіс не дае надзей на звыклы прагрэс з гадавой амплітудай у 26,6%.

Але гэта яшчэ паўбяды. Эфектыўнасць выкарыстання прыроднай рэнты імкліва зніжаецца (не без дапамогі бюджэтных патрыётаў), здабываць жа яе даводзіцца пры дапамозе абсталявання, якое засталося ў спадчыну ад СССР. У выніку падаражанне нафты ў 2011 годзе на 40% упершыню не прывяло да паскарэння росту ВУП, а рэальныя прыбыткі насельніцтва выраслі ўсяго толькі на 0,8%.

## Неабходная перазагрузка

Крот гісторыі рые павольна, але без перакураў і выходных. Прыведзеная вышэй эканамічная статыстыка не магла не запусціць адпаведныя сацыяльна-палітычныя працэсы. Зноў звернемся да дакладу ЦСР: «Атрыманы намі матэрыял сведчыць пра тое, што крызіс набыў незваротны характар. Незалежна ад сцэнараў яго далейшага развіцця, захаванне палітычнай устойлівасці, а тым больш зварот да дакрызіснага статус-кво, ужо не ўяўляецца магчымым».

> **Пуцін стварыў умовы для ўзбагачэння людзей, значная частка з якіх — яго знаёмыя. Ён асабіста прымаў рашэнні, каго прызначаць мільярдэрамі**

Сур'ёзная выснова. На мове Міхаіла Гарбачова гэта называецца «працэс пайшоў». Ці можна спыніць яго, калі звярнуцца да традыцыйнага для Расіі спосабу — «закручвання гаек»? Сёння пра гэта шмат хто кажа. Баюся, аднак, у ахвотнікаў узяць у рукі гаечны ключ (а такія, безумоўна, маюцца) наўрад ці нешта атрымаецца.

Не варта пераацэньваць магчымасці традыцыйнага для Расіі спосабу. Яго эфектыўнасць вызначаецца не рашучасцю і прафесіяналізмам «слесара», а адпаведным запытам з боку грамадства. Ельцын спыніў свой выбар на Пуціне, бо ўсведамляў, што ў грамадстве сфармаваўся запыт на «моцную руку». Гайдары і Нямцовы засталіся ў мінулым, таму свайго наступніка ён шукаў выключна сярод сілавікоў. Папярэднікамі штатнага супрацоўніка Ленінградскага ўпраўлення КДБ Пуціна на кастынгу пераемнікаў былі Мікалай Бардзюжа (дырэктар Федэральнай памежнай службы), Яўген Прымакоў (ён у якасці супрацоўніка Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных адносін цесна супрацоўнічаў з выведкай, таму далёка не выпадкова быў прызначаны ў 1996 годзе дырэктарам Знешняй выведкі Расіі) і Сяргей Сцяпашын (кіраўнік Ленінградскага ўпраўлення КДБ).

У 2003 годзе, паводле Левада-цэнтра, 64% расіян пагаджаліся з тым, што ФСБ будзе ўзмацняцца, і гэта пойдзе на карысць Расіі. Іх апанентамі выступілі толькі 9%. Але сёння, як ужо адзначалася вышэй, у грамадстве фармуецца запыт не на «моцную руку», а на вяршэнства закона. Мне ўжо неаднаразова даводзілася апісваць расійскіківач, які вагаецца паміж аўтарытарызмам і лібералізмам. У момант максімальнага набліжэння да ліберальнага полюсу і распаўся таталітарны Савецкі Саюз, і на першых прэзідэнцкіх выбарах у 1991 годзе перамог «ліберал» Ельцын. Але за апошнія дзесяцігоддзе XX стагоддзя ківач паспеў вярнуцца на зыходную пазіцыю, і людзі ў пагонах занялі ўсе ключавыя пасады ў дзяржаве і бізнэсе.

Безумоўна, адной просценькай схемай страту палітычнай устойлівасці краіны з насельніцтвам звыш 140 мільёнаў чалавек не растлумачыць. Не варта забываць, што ў жыццё актыўна ўступае пакаленне «заплечнікаў». Яго сацыялізацыя прайшла ў прынцыпова іншых умовах. Джынсы і аўтамабілі «Лада» не з'яўляюцца ўжо мяжой мараў большасці, і ва ўмовах масавага распаўсюджвання інтэрнэту ад сакральнага арэолу ўлады мала што засталося.

Апытанні Левада-цэнтра сведчаць, што «вобраз Пуціна згасае ўстойліва і незваротна». У 2000 годзе дзелавыя якасці Пуціна адзначалі 49% рускіх, у 2008 — 62%, сёння — 39%. Губляюць прывабнасць нават найбольш істотныя якасці — «моцны, валявы, мужны», на якіх заўсёды трымаўся яго імідж. Цяпер ім надаюць значэнне 18% апытаных. 12 гадоў таму было 25%, чатыры гады таму — 34%.

За заможныя «нулявыя» гады расійская ўлада, паводле выслоўя эканаміста Міхаіла Дзялягіна, захапілася «перапрацоўкай насельніцтва ў асабістыя дабрабыт». Нечакана высветлілася, што ў такой палітыкі ёсць мяжа. Неабходная перазагрузка. Ці зможа лідар, які згасае, вярнуць сабе былую папулярнасць? У расійскай гісторыі такога прэцэдэнту не было.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# БОМЖ ВАСІЛЬ ХАЦЬКОЎ

Марат ГАРАВЫ

**Былы інжынер, а зараз пенсіянер Васіль Хацькоў, за свае заслугі перад краінай узнагароджаны званнем «Вынаходнік СССР», ужо чацвёрты год бамжуе не па сваёй віне.**



На здымку Алега Груздзіловіча (Радыё «Свабода») 17 лютага 2009 года Васіля Хацькова выкінулі на снег і мароз, а яго хату спалілі

Гэтая гісторыя пачалася ў 1970 годзе, калі Васіль Хацькоў купіў у Мінску дом №26 па вуліцы імя Савецкіх пагранічнікаў (зараз — праспект імя Феліксa Дзяржынскага). І ўжо праз два гады чыноўнікі абвясцілі гаспадару пра знос дома ў бліжэйшы год.

З-за гэтага было забаронена разбудоўваць дом, хаця ў ім ужо жылі тры сям'і родзічаў гаспадара — ён з жонкай і сынам, а таксама сем'і бацькоў і малодшай сястры. Нягледзячы на забарону, у 1980 годзе да дому прыбудавалі яшчэ адну кватэру з асобным уваходам. А знос усё адцягваўся і пераносіўся. Паводле слоў Васіля Хацькова, так і пражылі на чамаданах 37 гадоў. І толькі ў 2007 годзе, калі ўжо сышлі ў лепшы свет бацькі і малодшая сястра гаспадара дома, знос стаў рэальнасцю ў сувязі з будаўніцтвам чарговай веткі Мінскага метрапалітэна.

На момант зносу ў дзвюхкватэрным блакаваным жылым доме з гаспадарчымі прыбудовамі, садам і агародам паасобна і не адзін год пражывалі дзве сям'і — сам спадар Васіль у адной кватэры, а ягоная былая жонка з яе дарослым сынам ад першага шлюбу — у другой. Дарэчы, апошнія не з'яўляліся ўладальнікамі дома, а хлопец нават ніколі і не быў членам сям'і Васіля Хацькова. Аднак згодна з айчынным заканадаўствам, якое дзейнічае да гэтага часу, спадар Васіль не меў магчымасці выпісаць былую жонку і яе сына са свайго ўласнага дома.

Такім чынам дзяржава абмяжоўвала свабоду ўласніка дома і прымушала яго саступаць сваё жыллё чужым людзям. Тым больш, што самі адносіны паміж гаспадаром дома і яго былой жонкай былі не вельмі добразычлівыя. Нягледзячы на гэта, адміністрацыя Маскоўскага раёна Мінска ўзамен дзвюхкватэрнага дома прапанавала абедзвюм сем'ям адну двухпакаёвую кватэру.

З-за таго, што Хацькоў не згадзіўся з такой прапановай уладаў, чыноўнікі звярнуліся за дапамогай у суд. І 19 кастрычніка 2007 года суд Маскоўскага раёна вырашыў выселіць спадара Васіля і ягоную былую жонку з сынам з дома №26 па праспекту Дзяржынскага ў двухпакаёвую кватэру па вуліцы імя Наджафа Рафіева. Прычым гэтая кватэра перадавалася спадару Васілю ва ўласнасць. Але як рэалізаваць гэтае права на ўласную кватэру, калі ў ёй павінны былі жыць чужыя людзі? Высяленне было афармлена судовым рашэннем, нягледзячы на тое, што парушаліся правы ўласніка згодна з артыкулам 44 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: «Уласнік мае права валодаць, карыстацца і распараджацца маёмасцю (...) Уласнасць, набытая законным спосабам, абараняецца дзяржавай». А згодна з артыкулам 104 Жыллёвага кодэксу Рэспублікі Беларусь, грамадзяніну і яго сям'і выдзяляецца кватэра ў выпадку зносу блакаванага жылога прыватнага дома ў сувязі з выемкай дзялянкі зямлі для дзяржаўных патрэб.

У маі 2008 года судовыя выканаўцы ўсялілі былую жонку Хацькова з яе сынам ва ўласную кватэру спадара Васіля. Але калі 17 лютага 2009 года ён адмовіўся пакідаць свой дом, Хацькова выкінулі на снег і мароз, а хату знішчылі. Пра гэта распавялі грамадству многія беларускія СМІ. Пасля доўгіх хаджэнняў спадара Васіля па кабінетах сталічнага чыноўніцтва, у першую чаргу — суда і пракуратуры, Генеральная пракуратура вынесла пратэст на рашэнне суда Маскоўскага раёна. А калі пратэст быў задаволены і справа Хацькова перагледжана, суд Маскоўскага раёна вынес наступнае рашэнне: спадару Васілю можна выдзеліць асобную альбо трохпакаёвую кватэру для сумеснага пражывання з былой жонкай і яе сынам. Такім чынам, суд не выканаў свае абавязкі, не ўзяў на сябе адказнасць па канчатковаму вырашэнню гэтага канфлікту паміж грамадзянінам і дзяржавай, а зноў аддаў гэтую праблему на водкуп выканаўчых органаў улады. І хаця рашэнне суда ўступіла ў законную сілу ў лістападзе мінулага года, толькі ў маі 2012 года ўлады пагадзіліся даць асобную кватэру спадару Васілю. Але невядома, калі Хацькоў на самай справе атрымае кватэру, бо чыноўніцтва дзейнічае па прынцыпу: на табе Божа, што нам не гожа.

ЭКАЛОГІЯ

# ТАЯМНІЦЫ ЗА ШКЛОМ

Вольга ХВОІН

**У Лідскім раённым судзе працягваецца разгляд пазову грамадскасці да кіраўніцтва шклозавода «Нёман». Грамадскасць патрабуе выканання закону і рэалізацыі правоў жыхароў дзяржавы.**

## Выкананне закону

Кіраўніцтва завода пачало рабіць рэканструкцыю цэха з арганізацыяй новага тэхналагічнага працэсу — вытворчасці шклаваты. Прадстаўнікі жа грамадскага аб'яднання «Экадом» і каардынатар Руху "За Свабоду" па Гродзеншчыне, жыхар Бярозаўкі і былы работнік «Нёмана» Сяргей Трафімчык патрабуюць ад шклозавода спыніць гаспадарчую дзейнасць па пабудове цэха шклаваты, пакуль не будуць праведзеныя грамадскія абмеркаванні, як гэтага патрабуе Орхуская канвенцыя.

Па-сутнасці, грамадскія абмеркаванні наўрад ці адменяць рашэння «Нёмана» аб будаўніцтве новай лініі, аднак будзе выкананы закон, які дазваляе людзям ведаць праўду пра новую шкодную вытворчасць. У ідэале, грамадскія абмеркаванні — пляцоўка для дыялогу людзей і прамыслоўцаў, магчымасць патрабаваць ад апошніх адказнасці і кампенсацыі ў выпадку, калі вытворчасць будзе ствараць пагрозу для навакольнага асяроддзя ці здароўя людзей.

«У апошнім адказе з заводу нам напісалі, што «праводзіць грамадскія слуханні немэтазгодна», — расказвае Трафімчык. — Паўплываюць тыя слуханні на штосьці ці не, гэта справа іншая. Але законам прапісана — слуханні мусяць быць! Будзем чакаць, што нашае патрабаванне ўсё ж задаволяць, у адваротным выпадку пойдзем далей — у абласны, Вярхоўны суд». Сяргей, між іншым, працаваў рабочым на заводзе «Нёман» з 1991 па 2011 год.

З патрабаваннем правесці грамадскія абмеркаванні актывісты звярталіся да дэпутатаў мясцовага, абласнога, рэспубліканскага ўзроўняў. Ім прыходзілі адпіскі. А дэпутат ад Бярозаўкі ў парламенце Міхаіл Арда ўвогуле нічога не адказаў на зварот грамадзян.

Сяргей Трафімчык гаворыць, што адміністрацыя завода імкнецца стварыць пазітыўны вобраз для новай вытворчасці, маўляў, будуць працоўныя месцы, эканамічнае развіццё рэгіёна. Ніхто ж не супраць, каб Бярозаўка рухалася наперад. Але людзі мусяць ведаць праўду, і чыноўнікам адмахвацца ад іх нельга.

«Мы апыталі прыкладна 400 чалавек наконт таго, што яны ведаюць пра новую вытворчасць у горадзе. Толькі 3 працэнта апытаных сказалі, што валодаюць поўнай інфармацыяй, — распавядае Сяргей. — За правядзенне грамадскіх абмеркаванняў двойчы збіраліся подпісы — першы раз сабралі больш за трыста, другі — больш за тысячу».

У Бярозаўцы пражывае прыкладна 11,5 тысячы чалавек. У пошуках лепшых працоўных месцаў, вышэйшых заробкаў з гарадка з'ехала многа людзей. У 2005 годзе на заводзе «Нёман» працавала пяць цэхаў, цяпер — толькі два. «Сустрэў аднаго знаёмага, ён кажа, што ў падмаскоўным Адзінцова ходзіць на працу, нібы на завод у Бярозаўцы — столькі знаёмых твараў», — распавядае Трафімчык.

## Асветніцтва суда

Другое судовае пасяджэнне мусіла пачацца а 14-й. Пакуль мы чакалі прызначанага часу, абмеркавалі праблему ці не з усіх бакоў. «Нёман» цяпер выпускае шкляныя вырабы, а цэх па вытворчасці шклаваты — гэта новая вытворчасць. Сяргей Трафімчык падкрэслівае, што поўнай інфармацыі пра яе экалагічнае ўздзеянне нідзе не было. Дарэчы, у Бярозаўцы і так не надта добрая экалагічная сітуацыя. «Вытворчасць крышталю — гэта 28% свінцовых злучэнняў. Медыкі пацвярджаюць кепскі стан экалогіі, і як вынік — пагаршэнне здароўя людзей, — распавядае актывіст. — Як адкрылі цэх па вытворчасці крышталю, то сцены ўнутры хутка пачалі пакрывацца аранжавым пылам з утрыманнем свінцу. Людзі млелі ў тых цэхах. Кіраўніцтва нават праводзіла сход, каб супакоіць надта ўражлівых работнікаў. У выніку зрабілі выцяжку, і цяпер быццам бы тыя газы выкідваюць у паветра на вуліцу. У раёнцы пісалі, што сярэдняя працягласць жыцця мужчын у Бярозаўцы — 53 гады!»

Дарэчы, прадстаўнікі «Нёману» патэлефанавалі і папярэдзілі пра сваё спазненне ў суд. Суддзя Вячаслаў Мацук (ён жа і намеснік старшыні суда Лідскага раёна) пачаў працэс без іх.

Варта адзначыць, што суддзя падрыхтавана і адказна падышоў да справы. Паколькі, па яго словах, экалагічныя пазовы — вялікая рэдкасць, з належнай уважлівасцю слухаў абодва бакі, унікаючы ў сутнасць справы. А ў выніку рэзюмаваў, што справа не такая і простая, як можа каму падацца, — з самой Адміністрацыі прэзідэнта, з Вярхоўнага суда цікавіліся яе ходам.



Сяргей Трафімчык і Сяргей Магонаў на ганку суда

Адзін з пазоўнікаў — прадстаўнік грамадскага аб'яднання «Экадом», юрысконсульт Сяргей Магонаў мяркуе, што гэта можа быць звязана з жаданнем уладаў выглядаць прыстойна ў вачах міжнародных экалагічных арганізацый. «Я на пачатку чэрвеня паеду ў Жэневу на пасяджэнне, што датычнае Орхуская канвенцыі. І буду вымушаны ў справаздачу аб выкананні Беларуссю гэтага пагаднення напісаць, што завод «Нёман» не дае грамадскасці рэалізаваць свае правы. І потым, калі будуць выдавацца крэдыты, разглядаюцца інвестыцыйныя праграмы для Беларусі, такая інфармацыя можа адправіць краіну ў «чорны спіс», — разважае наконт цікаўнасці вышэйшых органаў улады да судовага разбіральніцтва з «Нёманам» Сяргей Магонаў.

Цікава, што суддзя ў ходзе разбіральніцтва мусіў не толькі слухаць бакі, але і займацца асветніцкай дзейнасцю. Ён цярпліва даводзіў прадстаўнікам завода «Нёман», што калі ў краіне ёсць унутраныя законы і міжнародныя абавязальніцтвы, то яны ўсе абавязковыя да выканання, а не выбарачна. «Я ж не магу з дзвюх спраў выбраць адну, якая мне больш падабаецца», — тлумачыў на пальцах сутнасць выканання заканадаўства суддзя Мацук.

Прадстаўніца завода ў адказ цвердзіла, што на стадыі праектнай дзейнасці «Нёман» правёў паўгадзінны прамы эфір на мясцовым тэлебачанні, які анансавалі бягучым радком. На яе думку, лепшага сродку для інфармавання людзей і быць не можа, а грамадскія абмеркаванні — немэтазгодныя. Да таго ж указ па падтрымку завода падпісаў сам Лукашэнка, а праект зацвердзілі ўсе міністэрствы — яны ж не загадалі правесці тыя абмеркаванні, не маглі ж яны памыліцца! У сакавіку бягучага года быў выдадзены канчатковы варыянт экалагічнай ацэнкі праекту.

«Вы думаеце, што ў Мінпрыродзе мусяць кантраляваць кожнага, усё тлумачыць і даводзіць?! — абураўся суддзя. — Гэта ваш абавязак як выканаўцы знайсці, прачытаць і выканаць усе заканадаўчыя акты!»

Наступнае судовае пасяджэнне прызначанае на канец чэрвеня. Суддзя абяцаў выклікаць на яго прадстаўнікоў Бярозаўскага, і Лідскага выканкамаў, каб яны патлумачылі, што за адпіскі пісалі чыноўнікі на канкрэтныя запыты грамадзян.

## 8 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 0:10 Навіны.**
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Рабінзон» (Расія).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Журналісцкае расследаванне.
**11.05** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна). Заключная серыя.
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Драматычны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.30** «Перазагрузка «. Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Камандзіроўка.
**21.55** Прыгодніцкі серыял «Рабінзон» (Расія).
**23.00** Ток-шоў «Не толькі жанчына ведае».
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Трылер «Здань дому на пагорку» (ЗША).

---

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Шматсерыйны фільм «Жаночы доктар».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Камедыя «Дублёр».
**22.35** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі. Фінал.
**00.05** Фільм «Руда і Курсі».
**01.45** Начныя навіны.

---

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Верхаводы. Быць разам». Серыял. Заключная серыя.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла-2». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінשчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Каханне на выспе» (ЗША, 2005 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Механічны апельсін».
**23.50** «Выклік на мільён даляраў».
**00.30** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футболу.
**09.45** Ясі і худзей.
**10.15** Серыял «Вар'яты-2» (ЗША).
**11.15** Школа рамонту.
**12.25** Страсці па культуры.
**13.10** Вышэйшая мера.
**14.00** Музычная камедыя «Свінарка і пастух» (СССР).
**15.45** Альбарутэнія.
**16.15** Жансавет.
**16.50** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.30** Футбол. Эўра-2012. Польшча - Грэцыя. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. Расія - Чэхія. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.10** Фактар сілы.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05** «Рэспубліка сёння».
**05.20** «Усюды жыццё».
**06.05** М/с «Гадкае качаня».
**06.40** «Цік - так».
**07.05, 08.05, 02.25** Т/с «Ваўчыца».
**09.25** «Смачны свет».
**10.05, 11.05** М/ф «Сувенір для пракурора».
**12.20** Д/ф «Разумныя тэхналогіі».
**12.50** М/с «Крыштальная маска».
**13.20** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Чужыя таямніцы».
**17.05** «Злачынства і пакаранне».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40, 04.25** «Зроблена ў СССР».
**19.10** М/ф «Два таварышы».
**21.20** «Неверагодная праўда пра зорак».
**22.20** «Любімыя акцёры».
**22.50** М/ф «Рагін».
**00.30** «Добрыя жарты».

### Discovery Channel

**05.00** Пятая перадача. Еўропа. Серыя 4.
**05.25** Залатая ліхаманка.
**06.20** Як гэта ўладкавана?
**06.50** Як гэта зроблена?
**07.15** Сапраўдныя аферысты. Серыя 1–2.
**08.10** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Залатая ліхаманка.
**10.00** Выжыць любым коштам.
**10.55** Зброя па-амерыканску.
**11.50** Спартовыя арэны чэмпіянату 2012. Серыя 2.
**12.45** Top Gear. Серыя 5.
**13.40** Баявыя машыны.
**14.35** Пятая перадача. Еўропа. Серыя 5.
**15.05** Залатая ліхаманка.
**16.00** Справа тэхнікі! Серыя 1–2.
**17.00** Хлопцы з гарматамі.
**17.30** Брудныя грошы.
**18.00** Сапраўдныя аферысты. Серыя 3–4.
**19.00** Разбуральнікі легенд.
**20.00** Зорная каманда Discovery. Як гэта ўладкавана?
**20.30** Як гэта зроблена?
**21.00** Выжыць любым коштам.
**22.00** Прасцяк за мяжой.
**23.00** Браты па багне.
**23.30** Рачныя монстры.
**00.25** Сапраўдныя аферысты. Серыя 5.
**00.55** Залатая ліхаманка.
**01.50** Разбуральнікі легенд.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 22.
**03.10** Як гэта ўладкавана?
**03.40** Як гэта зроблена?
**04.05** Баявыя машыны.

### Eurosport

**00.30** Тэніс.
**01.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**02.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Таварыскі матч.
**02.30** Футбол: Эўра-2012. Агляд.
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**10.00** Тэніс.
**11.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 5.
**11.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**12.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 6.
**21.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**23.00** Футбол: Моладзевы фэст да 21. Тулон.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Калыханка для самых маленькіх.
**07.40** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 1 серыя.
**08.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.30** «Час гонару», серыял: 4 серыя.
**09.20** «Тэра постсаветыка. Красная плошча. Ленін», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**09.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**09.55** Euromaxx.
**10.20** Хто ёсць кім?: «Юрый Хадыка», рэпартаж.
**10.35** Паляванне на дзівосы.
**11.00** Дэфект», тэлесерыял: 1 серыя.
**11.50** МакраФон: Рамантычны канцэрт.
**13.10** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 1 серыя.
**13.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.05** «Зграя», сенсацыйны серыял: 1 серыя.
**15.00** «Тэра постсаветыка. Красная плошча. Ленін», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**15.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**16.00** Хто ёсць кім?: «Юрый Хадыка», рэпартаж.
**16.15** Паляванне на дзівосы.
**16.35** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: Канцэрт гурта «B:N:».
**17.00** «Дэкалог, дзевяць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 1 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Афган», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** «Апантаныя», дак. цыкл.
**20.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Атамны полк», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**21.55** «Прыехалі ўланы», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**22.55** Эксперт.
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** «Мент», дэтэктыўны серыял: 25 серыя.
**00.30** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 9 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### 1 Беларусь

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**09.55** Камедыйны серыял «Участак» (Расія).
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.10** Камедыя «Залаое цяля» (СССР). 1-я серыя.
**13.45** Мультфільм.
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Камедыя «Залаое цяля» (СССР). 2-я серыя.
**17.15** Відэафільм АТН з цыклу «Зямля беларуская».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Крымінальная меладрама « Насуперак сэнсу» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**22.50** Дзень спорту.
**23.00** Трылер «Асобнае меркаванне» (ЗША).

---

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.10** Асяроддзе пасялення.
**12.10** «Разумніцы і разумнікі».
**12.55** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.10** «Мікалай Растаргуеў. «Давай за жыццё!».
**14.10** «Хвіліна славы. Мары спраўджваюцца!».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Суботні «Ералаш».
**16.50** «Галіна». Шматсерыйны фільм.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Камедыя.
**23.05** Фільм «Жыццё Дэвіда Гейла».

---

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.35** «Салдаты-13». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Каханне на выспе» (ЗША, 2005 г.).
**12.30** «Прыгоды дылетанта».
**13.00** Фільм «Я крочу па Маскве» (СССР, 1963 г.).
**14.30** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Фільм «Мужчынская інтуіцыя» (Украіна, 2007 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Выспа Нім» (ЗША, 2008 г.).
**22.00** «Зорны рынг».
**23.15** Фільм «Дэманы мінулага» (ЗША - Канада, 2008 г.).
**00.50** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.40** Дабравест.
**08.05** Мір вашай хаце.
**08.15** Музычная камедыя «Свінарка і пастух» (СССР).
**09.55** Пра мастацтва.
**10.25** Тэлебарометр.
**10.35** Школа рамонту.
**11.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.10** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.15** Наперад у мінулае.
**13.50** Беларуская кухня.
**14.25** Авантурная камедыя «15 жніўня» (Францыя).
**16.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**16.55** Гандбол. Славакія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**18.50** Футбол. Эўра-2012. Нідэрланды - Данія. Прамая трансляцыя.
**21.00** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. Германія - Партугалія. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.10** Шоў «Суперінтуіцыя».

---

**05.00** Д/ф «Галоўны інжынер Савецкага Саюза».
**06.10** «Даведнік».
**06.40** М/ф «Апошні подзвіг Камо».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.40** М/ф «Народжаная Рэвалюцыяй».
**15.10, 01.05** М/ф.
**17.10** М/ф «Мужчына.? Жанчына!».
**19.50** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.40** М/ф «Шлях цмока».
**22.30** «Музычны ілюмінатар».
**23.10** «Добрыя жарты».
**04.10** М/ф «Сувязь».

### Discovery Channel

**05.00** У пагоні за ўраганам 2010 год.
**06.50** Калі рыба атакуе. Серыя 3.
**07.45** Смяротны ўлоў.
**08.40** Ствараючы будучыню.
**09.35** Спецпрызн «Цяжкія машыны». Серыя 8.
**10.30** Спартовыя арэны чэмпіянату 2012. Серыя 2.
**11.25** У пагоні за ўраганам 2010 год.
**13.15** Top Gear. Серыя 6.
**14.10** Махінатары. Bel Air.
**15.05** Як гэта ўладкавана?
**15.30** Як гэта зроблена?
**16.00** Калі рыба атакуе. Серыя 3.
**17.00** Спецпрызн «Цяжкія машыны». Серыя 8.
**18.00** Лесапавал на балотах.
**19.00** Разбуральнікі легенд.
**20.00** Як гэта ўладкавана?
**20.30** Як гэта зроблена?
**21.00** Выжыць любым коштам.
**22.00** Прасцяк за мяжой.
**23.00** Браты па багне.
**23.30** Top Gear. Серыя 1.
**00.25** Сапраўдныя аферысты. Серыя 6.
**00.55** У пагоні за ўраганам 2010 год.
**02.45** Як гэта ўладкавана?
**03.10** Top Gear. Серыя 6.
**04.05** Махінатары. Bel Air.

### Eurosport

**00.00** Футбол: Эўра - 2012. «Зваротны адлік».
**00.15, 09.45** Тэніс.
**01.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**02.00** Аўта і Матаспорт.
**02.15, 09.30** Фітнэс.
**02.30** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Таварыскі матч.
**10.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 6.
**11.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**12.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 7.
**21.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**23.00** Бокс: Германія.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Калыханка для самых маленькіх.
**07.45** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 1 серыя.
**08.15** «Мой родны горад», серыял: 1 серыя.
**08.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**09.05** «Апантаныя», дак. цыкл.
**09.15** Беларускія лёсы: «Афган», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Дэкалог, дзевяць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**11.05** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 1 серыя.
**11.50** Англійская для дзяцей.
**11.55** Калыханка для самых маленькіх.
**12.15** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 1 серыя.
**12.45** Беларускія лёсы: «Афган», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**13.05** МакраФон: Рамантычны канцэрт.
**13.30** «Прыехалі ўланы», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**15.30** Эксперт.
**16.00** «Край светлых мрояў», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 29 серыя.
**17.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** Дэфект», тэлесерыял: 1 серыя.
**18.55** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 1 серыя.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.25** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Браты-ворагі», дак. серыял: 1 серыя.
**21.45** Суботні сеанс: «Апошняе заданне», маст. фільм, 1999 г., Польшча.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.45** «Арол: крымінальная сага», серыял: 1 серыя.
**00.45** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 10 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.30** Існасць.
**06.55** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**07.05** Прыгодніцкі баявік « Піраты ХХ стагоддзя» (СССР).
**08.30** Ранішняя хваля.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Відэафільм АТН з цыклу «Зямля беларуская».
**09.50** Камедыйны серыял «Участак» (Расія).
**10.55** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**11.25** Да цешчы на бліны.
**12.10** Медычныя таямніцы.
**12.40** Культурныя людзі.
**13.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.05** Час Саюза.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільмы.
**15.40** Прыгодніцкі баявік « Піраты ХХ стагоддзя» (СССР).
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Суперлато.
**18.50** Трылер «Пляж» (ЗША-Вялікабрытанія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.20** Баявік «Моцны арэшак-2» (ЗША).
**00.30** ІІ Міжнародны фэст.
**01.45** ІІ Міжнародны фэст. Канцэрт камернага аркестра (Аўстрыя).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** Фільм «Утаймаванне свавольнай».
**11.30** «Брэйн рынг». Фінал.
**12.35** Прэм'ера. «Дар'я Данцова. Вар'яцкая аптымістка».
**13.30** Фільм «Вакзал для дваіх».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Шматсерыйны фільм «Прапанаваныя абставіны».
**20.00** Контуры.
**21.05** Фільм «Пра любoff».
**23.05** «Пражэктарпэрысхілтан».
**23.45** Прэм'ера. «У цені Сонца нацыі».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** Фільм «Выспа Нім» (ЗША, 2008 г.).
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.35** Фільм «Дача» (СССР, 1974 г.).
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Пятае вымярэнне» (ЗША - Канада, 2008 г.).
**22.40** «Пякельная кухня».
**23.55** Фільм «Пекла» (Францыя - Японія - Італія - Бельгія, 2005 г.).
**01.35** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.15** Размова са святаром.
**08.25** Прыступкі Веры.
**08.45** Таямніца душы.
**09.10** «Да мяне, Мухтар!» (СССР).
**10.45** Тэлебарометр.
**10.55** Школа рамонту.
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.35** Бухта капітанаў.
**14.15** «Мадагаскар» (ЗША).
**15.55** Кінаспробы.
**16.40** Музычны фільм «Ах, вадэвіль, вадэвіль…» (СССР).
**18.05** Спорт-кадр.
**18.50** Футбол. Эўра-2012. Іспанія - Італія. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Футбол. Эўра-2012. Ірландыя - Харватыя. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.10** Шоў «Суперінтуіцыя».

### Мір

**05.00** Д/ф «Легенды Тункінскай даліны».
**06.00** «Смачны свет».
**06.30, 04.45** М/ф «Мужчыны».
**07.50** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Ведаем рускую».
**10.10** «Даведнік».
**10.40, 00.20** М/ф «Народжаная Рэвалюцыяй».
**14.00** «Правілы жыцця».
**15.10** Ток - шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Працяг будзе».
**20.00** Вынiковая праграма «Разам».
**22.00** «Паўночнікі».
**22.30** М/ф «Кідалы ў гульні».

### DISCOVERY CHANNEL

**05.00** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 27.
**05.25** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 28.
**05.55** Лабараторыя выбухных ідэй.
**06.50** Ланцужная рэакцыя. Серыя 4.
**07.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?
**08.40** Экстрэмальная рыбалка.
**09.35** Калі рыба атакуе. Серыя 3.
**10.30** Лесапавал на балотах.
**11.25** Лабараторыя для мужчын Джэймса Мэя. Серыя 5.
**12.20** Ланцужная рэакцыя. Серыя 4.
**13.15** Круцей не прыдумаеш. Серыя 74.
**13.40** Круцей не прыдумаеш. Серыя 75.
**14.10** Горш быць не магло.
**14.35** Горш быць не магло.
**15.05** Смяротны ўлоў.
**16.00** Сакрэты спецслужбаў. Серыя 1.
**17.00** Сакрэты спецслужбаў. Серыя 2.
**18.00** Сакрэты спецслужбаў. Серыя 3.
**19.00** Разбуральнікі легенд.
**20.00** Як гэта ўладкавана?
**20.30** Як гэта зроблена?
**21.00** Выжыць любым коштам.
**22.00** Прасцяк за мяжой.
**23.00** Браты па багне.
**23.30** Top Gear. Серыя 2.
**00.25** Сапраўдныя аферысты. Серыя 7.
**00.55** Ланцужная рэакцыя. Серыя 4.
**01.50** Лабараторыя выбухных ідэй.
**02.45** Як гэта ўладкавана?
**03.10** Ствараючы будучыню.
**04.05** Спартовыя арэны чэмпіянату 2012. Серыя 2.

### EUROSPORT

**00.30** Футбол: Эўра-2012. Агляд.
**01.30** Тэніс.
**02.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**10.15** Тэніс.
**11.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**12.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 8.
**21.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**23.00** Веласпорт.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Калыханка для самых маленькіх.
**07.50** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 2 серыя.
**08.20** «Мой родны горад», серыял: 2 серыя.
**08.45** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 1 серыя.
**09.30** Побач з намі.
**09.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**09.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** «Доктар Марцін», серыял: 29 серыя.
**11.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.45** Англійская для дзяцей.
**11.50** Калыханка для самых маленькіх.
**12.25** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 2 серыя.
**12.50** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 1 серыя.
**13.20** «Арол: крымінальная сага», серыял: 1 серыя.
**14.15** «Браты-ворагі», дак. серыял: 1 серыя.
**14.45** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**15.10** «Апошняе заданне», маст. фільм, 1999 г., Польшча.
**17.00** «Супраць забыцця. След дыктатураў», дакументальны фільм, 2010 г., Францыя.
**18.30** «Каралева Бона», тэлесерыял: 1 серыя.
**19.25** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**19.50** Англійская для дзяцей.
**19.55** Калыханка для самых маленькіх.
**20.10** «Малыя здабыўцы», дак. фільм, 2009 г., Германія.
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Мой брат – адзіны сын», мастацкі фільм, 2007 г., Італія.
**23.45** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.25** «Арол: крымінальная сага», серыял: 2 серыя.
**01.25** «Бульбаны», мультсерыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

СПРЭЧКА

# БІКАЛОР СУПРАЦЬ ТРЫКАЛОРУ

Алег НОВІКАЎ





**У Малдове нечакана абвастрылася пытанне, які сцяг з'яўляецца сапраўдным нацыянальным.**

Цяперашні варыянт малдаўскага сцяга ўяўляе сабой трыкалор з роўнавялікімі палосамі, размешчанымі вертыкальна: блакітная, жоўтая і чырвоная. У цэнтры, на жоўтай паласе, размешчаны герб, у аснове якога — выява галавы зубра.

Сцяг, што быў прыняты як дзяржаўны ў 1990 годзе, зацвярджалі на альтэрнатыўнай аснове. У тагачаснай камісіі па сімволіцы было як мінімум тры фракцыі. Першая — прыхільнікі інтэграцыі з Румыніяй, т. зв. уніяністы. Яны агітавалі за трыкалор, паколькі падобны сцяг мела блізкая малдаванам Румынія і абвешчаная ў 1918 годзе Малдаўская Прэзідэнцкая Рэспубліка (хаця палосы размяшчаліся гарызантальна).

Касцяк другой групы складалі камуністы. Яны ўвогуле былі супраць рэформы сімволікі, сцвярджаючы, што чырвоны сцяг — гэта сцяг малдаван. Аргументам служыў той факт, што чырвоныя колеры былі на сцягу легендарнага сярэдняевечнага малдаўскага князя Стэфана Вялікага. Хутка абвешчаная ў Прыднястроўі непрызнаная рэспубліка пачала ўжываць сцяг Малдаўскай ССР, хоць і без выявы сярпа, молата і зоркі.

Была ў той камісіі яшчэ адна маленькая група гісторыкаўспецыялістаў, якія выцягнулі з архіваў амаль не вядомы сучаснікам факт. Аказваецца, у 1858 годзе ў Парыжы канвенцыя сямі вялікіх дзяржаў (сярод якіх былі і Францыя, і Вялікабрытанія, і Расія, і Турцыя) у чарговы раз падзяліла Турцыю. У выніку было таксама вырашана, што аўтаномныя княствы Малдовія і Валахія, якія пазней стварыць адзіную дзяржаву — Румынію, павінны атрымаць асобныя сцягі. Валахам дастаўся сіне-жоўты, а малдаванам — сіне-чырвоны сцяг. Гэта было нават асобна запісана ў міжнародным дакуменце. Іншымі словамі, сцяг атрымаў міжнародную легітымнасць.

Нататку пра сіне-чырвоны сцяг напрыканцы 1980-х гадоў палічылі гістарычным кур'ёзам. У той час сярод палітыкаў дамінавала ідэя аб'яднання Малдовы з Румыніяй. І калі быў абвешчаны конкурс новай дзяржаўнай сімволікі, амаль усе ўдзельнікі пагадзіліся, што дзяржаўным сцягам будзе той, які падобны да румынскага трыкалору.

Пасля зацвярджэння трыкалору ў якасці дзяржаўнага сцяга Малдовы пра дыскусію канца 1980-х гадоў наконт дзяржаўнай сімволікі забыліся. Нават калі да ўлады ў Кішынёве прыйшлі камуністы, статус-кво захаваўся. Тэма дзяржаўных сімвалаў нечакана ўсплыла роўна праз 20 гадоў. 1 мая 2010 года па вуліцах Кішынёва павінен быў прайсці разрэкламаваны левай апазіцыяй Сацыяльны марш. Сюрпрызам акцыі стала тое, што над калонай маніфестантаў развіваўся не толькі традыцыйны кумач, а таксама сіне-чырвоны штандар.

Ад камуністаў журналісты даведаліся, што гэта і ёсць сапраўдны малдаўскі сцяг, які ў дадатак утрымлівае важны ідэйны змест. «Сёння сіне-чырвоны сцяг — не проста гістарычны, спрадвечны сцяг Малдаўскай дзяржавы: сёння гэта знак пратэсту. Пратэсту супраць карупцыі і беззаконня. Пратэсту супраць антысацыяльных рэформаў. Пратэсту супраць татальнай румынізацыі Малдовы і скажэння гістарычнай праўды, — пісала блізкае да кампартыі выданне «Грэнада». — Сёння, калі мы шукаем пераемнасць у традыцыях малдаўскай дзяржавы, то гэтыя колеры як нельга лепш адлюстроўваюць дзяржаўную традыцыю».

Справа не абмежавалася толькі экскурсам у гісторыю. Паколькі камуністы добра прадстаўленыя на ўзроўні мясцовых саветаў, чырвоныя муніцыпалітэты хутка пачалі прымаць рашэнні аб выкарыстанні сіне-чырвонага сцяга ў якасці афіцыйнага. На будынках муніцыпалітэтаў бікалор (так празвалі новы сцяг журналісты), вывешваюць на падставе таго, што гэта «гістарычны сцяг Малдовы». Праўда, пакуль камуністы не супраць таго, каб «гістарычны сцяг Малдовы» лунае побач з дзейным дзяржаўным сцягам.

Ужо зараз «гістарычны сцяг Малдовы» лунае над будынкамі некаторых дзяржаўных устаноў трох раёнаў рэспублікі. Самы вялікі населены пункт, які перайшоў на новую сімволіку, — другі ў краіне горад Бельцы. Там 29 сакавіка, падчас пасяджэнні муніцыпальнай рады, было прынята рашэнне пра выкарыстанне «гістарычнага сцяга малдаўскай дзяржавы».

Кіруючы ў краіне прарумынскі «Альянс за еўрапейскую інтэграцыю» вельмі рэзка сустрэў ініцыятыву з новым сцягам. Частка блізкіх да альянсу гісторыкаў выступіла з катэгарычнымі заявамі пра тое, што сіне-чырвоны сцяг не мае нічога агульнага з мінулым Малдовы.

Як звычайна бывае, у ход пайшлі самыя вульгарныя тэорыі. Так, некаторыя праўрадавыя публіцысты сцвярджаюць, што ў Асманскай імперыі, куды ўваходзіла Малдова, чырвоная паласа на сцягах акупаваных туркамі правінцый значыла падпарадкаванне. Тое, што камуністы выкарыстоўваюць на «гістарычным сцягу Малдовы» чырвоны колер, значыць, такім чынам, пакору мусульманам. Някепскую тэорыю прыдумаў пісьменнік Мікола Дабіжа. Як ён піша, «сіне-чырвоны сцяг створаны па падабенству са сцягам Расійскай Федэрацыі, толькі без белага колеру».

Справа даходзіць да банальнага крадзяжу сіне-чырвоных сцягоў з дахаў муніцыпалітэтаў, якія «перайшлі» на новую сімволіку. Прычым старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі, кіраўнік урада Уладзімір Філат нядаўна паведаміў усім, што сцягі зрываюць «па распараджэнні ўладаў».

Неаднаразова ў Кішынёве ўздымалася пытанне пра прыцягненне да крымінальнай адказнасці дэпутатаў на месцах, якія галасавалі за новую сімволіку. «Генпракуратура павінна распачаць крымінальныя справы супраць тых, хто парушыў заканадаўства Рэспублікі Малдова пра дзяржаўную сімволіку. У будучыні, а мы гэта паказалі, любое парушэнне закона будзе праследавацца», — заявіў прэм'ер краіны Філат.

Нядаўна Генеральная пракуратура Малдовы сапраўды распачала пяць крымінальных спраў супраць мясцовых органаў улады, якія санкцыянавалі вывешванне двухколерных сіне-чырвоных сцягоў на дзяржаўных установах. Дзеянні дэпутатаў пракуратура кваліфікавала па артыкулу «Перавышэнне паўнамоцтваў». Аднак цяжка сказаць, ці дойдзе справа да працэсу, паколькі такія працэсы, відавочна, ператварацца ў бясконцую спрэчку гісторыкаў.

На сіне-чырвоны сцяг нацкавалі і Нацыянальную камісію па геральдыцы, пра існаванне якой, напэўна, не ведала 99,99 працэнта малдаўскіх грамадзян. Узнясце сіне-чырвонага сцяга ў Бельцах гэта малавядомая камісія назвала «здзекам з трыкалору Малдовы».

Затое ўлады праігнаравалі словы мэра сталіцы, які ўвогуле выступіў за ліквідацыю дзяржаўнай сімволікі Малдовы. У адказ на навязаную грамадству камуністамі дыскусію пра сімволіку мэр Кішынёва заявіў, што сцягі Малдавіі і Румыніі павінны стаць ідэнтычнымі. «Цяпер у нас два тыпы трыкалору. Толькі адзін без герба — у Румыніі, а іншы з гербам — тут, у Малдове. Я прапаную, каб сцягі былі аднолькавымі», — падкрэсліў мэр.

У тым, што ўлада актыўна ўключылася ў барацьбу за сімволіку, нічога дзіўнага няма. Зразумела, што лепш ірваць тканіну сцяга, чым змагацца з сацыяльнымі праблемамі і карупцыяй. На гэтым моманце акцэнтуе ўвагу левая прэса. Аднак падобнае абвінавачанне лагічна выставіць і на адрас камуністычнай апазіцыі, якая накіравала шмат энергіі на папулярызацыю сіне-чырвоных штандараў.

Здаецца, што абодвум бакам — уладзе і апазіцыі — тактычна выгадныя гістарычна-культурныя войны, паколькі дазваляюць без вялікіх цяжкасцяў кансалідаваць і мабілізаваць свой электарат. Не зразумела толькі, чым можа закончыцца палярызацыя Малдовы па прынцыпу сімпатый да трыкалору або бікалору.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Таямнічая краіна, не пазначаная ні на адной мапе свету, дажывае сваю нядоўгую гісторыю. Імя ёй — Саюзная дзяржава Расіі і Беларусі. Пытанне пра дэмантаж нешматлікіх саюзных механізмаў будзе паднятае дзесьці да 2015 года. Менавіта да гэтага моманту плануецца завяршыць фармаванне паўнавартасных выканаўчых і заканадаўчых інстытутаў Еўразійскага саюза. Як лічаць высокапастаўленыя крыніцы ва ўрадзе, для Расіі ліквідацыя Саюзнай дзяржавы будзе добрай нагодай, каб нарэшце паказаць Аляксандру Лукашэнку яго месца.

**«Итоги» (Расія)**

«Апора на Кітай для Беларусі — гэта падарунак», — растлумачыў Лукашэнка падчас штогадовага паслання да народа і парламенту. Аглядальнікі ў Мінску, аднак, ацэньваюць такі падарунак як траянскага каня, жартам кажучы, што вядомаму фразеалагізму няма сучаснага аналагу з кітайскім каларытам. Хто і як лічыць, можна зразумець, аценіўшы структуру тавараабароту: па дадзеных пасольства Беларусі ў Кітаі, рэкордны леташні тавараварот у 3 мільярда долараў мае адмоўнае для Мінска сальда ў памеры 1 617 418 тысяч долараў. Чыннік адмоўнага балансу — кітайскія крэдыты. Па дадзеных беларускага ўрада, велічыня крэдытнай лініі, адкрытай Кітаем для рэалізацыі інвестпраектаў у Беларусі, складае 16 мільярдаў долараў. У пераважнай большасці гэта крэдыты з умовай набыцця на вылучаныя грошы кітайскага абсталявання, тэхналогій, выкарыстання кітайскай працоўнай сілы.

**«BBC» (Вялікабрытанія)**

Сёння ўлады не спяшаюцца з прызнаннем выбараў. Як лічаць эксперты, свядома. Выбарны перыяд у Беларусі — адзіны і кароткатэрміновы прамежак часу, калі прадстаўнікі апазіцыі адносна вольна могуць кантактаваць з электаратам і прасоўваць свае ідэі. Лагічна, што чым ён карацей, тым спакайней уладам. Назіральнікі мяркуюць, што асцярогі ўлады істотна ўзраслі пасля мінулых прэзідэнцкіх выбараў. Тады яны да такой ступені загуляліся ў дэмакратыю, спрабуючы пераканаць Захад у яе наяўнасці ў Беларусі, што электарат сапраўды паверыў у існаванне альтэрнатывы дзейнаму кіраўніку. У канчатковым выніку ўлада змушана была звярнуцца да масавых рэпрэсій супраць любога іншадумства, каб ацвярозіць людзей.

**«Независимая газета» (Расія)**

Адзін мільярд долараў пераведзены з «Крэдэксбанка» ў афшоры, і 15 тысяч долараў, якія беларускі суд жадае атрымаць з асуджанага праваабаронцы Алеся Бяляцкага за несвоечасовую выплату штрафу, — сумы несупастаўныя. Лёгкасць, з якой беларускія ўлады знаходзяць грошы апазіцыянераў, і кепская сістэма кантролю за буйнымі фінансавымі патокамі паказваюць на тое, што Мінск больш цікавяць рахункі апазіцыі, чым дзейнасць зарэгістраваных у краіне банкаў.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Урад Беларусі прапануе Еўрапейскаму банку рэканструкцыі і развіцці (ЕБРР) падрыхтаваць сёлета новую стратэгію супрацоўніцтва. Яна павінна зняць палітычна ангажаваныя абмежаванні, уведзеныя ў сувязі з недэмакратычнымі дзеяннямі ўлад пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010-га. Таксама Беларусь не расстаецца з надзеяй атрымаць крэдыт МВФ. Эксперты і назіральнікі крыху здзіўлены такой актыўнасцю Мінска, бо пакуль Беларусь не выканала сфармуляваных сусветнай супольнасцю ўмоў.

**«Вести» (Малдова)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. ВЫКЛЮЧЫЦЬ АРГЕНЦІНУ З G–20

Фракцыя рэспубліканцаў у кангрэсе ЗША прапанавала праект рэзалюцыі, якая патрабуе выключэння Аргенціны са складу G–20 — нефармальнага аб'яднання дваццаці самых эканамічна развітых краін у свеце. Галоўныя прычыны ціску на Буэнас-Айрэс — нядаўняе рашэнне прэзідэнта Крысціны Кіршнер наконт нацыяналізацыі іспанскай прыватнай кампаніі «Repsol». Як кажа адзін з аўтараў праекту Дзік Лугар, «улада Аргенціны смяецца з законаў і не паважае правы замежных інвестараў». Па словах ініцыятараў рэзалюцыю, галасаванне па якой адбудзецца ў чэрвені, іх ідэю падтрымала шмат бізнэс-структур, якія баяцца, што прыклад Аргенціны становіцца заразным. Самае смешнае ў гэтай сітуацыі тое, што ў падтрымку нацыяналізацыі ў Аргенціне нечакана выказалася кубінская эміграцыя, для якой заўсёды былі характэрныя антыкамуністычныя настроі. Справа ў тым, што «Repsol» актыўна супрацоўнічала з Гаванай, ігнаруючы факты пераследу кубінскіх дысідэнтаў. Эмігранты маюць надзею, што пазбаўленая аргенцінскага філіяла кампанія «Repsol» ляснецца, што нейкім чынам аслабіць рэжым Кастра.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. ЛЕ ПЭН ГАТОВАЯ ПАДТРЫМАЦЬ САЦЫЯЛІСТАЎ

Марына Ле Пэн — лідар правага радыкальнага «Нацыянальнага фронту», рыхтуе правакацыю на цяперашніх парламенцкіх выбарах. Яна будзе палягаць у тым, што яе партыя можа заклікаць да галасавання ў другім туры за кандыдатаў ад іншых партый, у тым ліку ад сацыялістычнай. Навіна выклікала шок сярод сацыялістаў. Той факт, што нехта з палітыкаўсацыялістаў атрымае падтрымку з боку правых радыкалаў, можа моцна яго дыскрэдытаваць у вачах левага выбаршчыка. Яшчэ больш хаос назіраецца ў кіраўніцтве галісцкага «Саюза за народны рух» (UMP). Стратэгія UMP заключалася ў тым, каб перацягнуць да сябе выбаршчыкаў «Нацыянальнага фронту». Цяпер, калі яны пачнуць галасаваць за левых, ураджай мандатаў, якія збяруць галісты, можа быць вельмі малы. Праўда, менавіта гэтага — маргіналізацыі UMP — і жадае Ле Пэн. Калі UMP моцна страціць, «Нацыянальны фронт» зможа на роўных змагацца з ім. План у Марыны сапраўды геніяльны, аднак не зразумела, ці яе выбаршчык пагодзіцца падтрымаць сацыялістаў, якія ненавідзяць франтавікоў.

**Паводле французскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. ДЭПУТАТЫ БАЙКАТУЮЦЬ «ДЫКТАТАРА»

Як не дзіўна, фільм «Дыктатар», прэм'ера якога адбылася 22 мая, не быў забаронены ў Казахстане. Справа не толькі ў тым, што сам палітычны рэжым у Казахстане больш ліберальны, чым у суседнім Таджыкістане і Туркменістане, дзе фільм трапіў у чорны спіс. Папросту ў галоўнай ролі зняўся Саша Барон. Раней у фільме «Борат» ён выканаў ролю Бората — казахскага журналіста, які шакуе Захад сваімі «казахскімі» ўяўленнямі пра мараль, сям'ю, права. Пасля гэтага «Бората» нават на нейкі час у Казахстане забаранілі за дыскрэдытацыю дзяржавы, аднак не так даўно забарону знялі. «Дыктатар» хаця і не выклікаў у Казахстане такой рэакцыі, як «Борат», аднак дыскусія наконт карціны ідзе актыўна. Праўда, фільм больш крытыкуюць за жарты з ісламскага менталітэту. Самае цікавае, што чыноўнікі вырашылі перастрахавацца ад таго, што звычайныя людзі могуць пабачыць, як «слугі народа» смяюцца з «Дыктатара». Адміністрацыя шматлікіх дзяржаўных устаноў негалосна рэкамендавала сваім супрацоўнікам не хадзіць на «Дыктатара».

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. КЛІЧКО ПРАДАЎСЯ ЯНУКОВІЧУ

Менавіта так тлумачаць шматлікія мясцовыя аналітыкі нечаканае рашэнне Віталя Клічко адмовіцца ад удзелу ў выбарах мэра Кіева, якія павінны адбыцца гэтым летам або ўвосень. Па ўсіх рэйтынгах лідар партыі УДАР (так называецца структура Клічко) быў фаварытам выбараў у сталіцы і яўна абыходзіць кандыдата ад ўлады «рэгіянала» Аляксандра Папова. Цяпер, аднак, апошні мае цудоўныя шансы на перамогу, паколькі іншыя апазіцыянеры, у адрозненні ад Клічко, які даўно змагаецца за права быць бургамістрам, малавядомыя і ў дадатак сварацца адзін з адным. Цяпер усе спрабуюць зразумець, чаму Клічко адмовіўся ад барацьбы. Версій шмат. Адны кажуць, што Клічко пасля выбараў у парламент аддадуць Дзяржкамітэт спорту, другія лічаць, што Клічко паабяцалі намаляваць вялікую лічбу на восеньскіх выбарах у парламент, што зробіць яго лідарам апазіцыі. Пакуль канчатковага адказу на гэта пытанне няма.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



КАНФЛІКТ

# АЛІМПІЙСКІЯ ВОЙНЫ

*Алег НОВІКАЎ*

**У 30-ю гадавіну вайны за Фальклендскія (Мальвінскія) астравы Аргенціна збіраецца ўзяць у брытанцаў рэванш на Алімпіядзе ў Лондане.**



Кіршнер заклікала падтрымаць праект рэзалюцыі, якая патрабуе ад Вялікабрытаніі пачаць перамовы наконт дэкаланізацыі астравоў. Яна нагадала, што на планеце засталося 16 калоній. 10 з іх — пад кантролем Лондана

Мужчынскі хакей на траве — не самы папулярны ў свеце від спорту. Аднак прызначаны ў Лондане на 30 ліпеня матч паміж Вялікабрытаніяй і Аргенцінай стане адной з галоўных падзей на будучай Алімпіядзе. Прычына зразумелая. Для аргенцінцаў гэта будзе магчымасць хоць неяк пакараць Англію за прыніжэнне нацыянальнага гонару ў вайне за Фальклендскія (Мальвінскія) астравы, якую краіна прайграла ў 1982 годзе.

Напружанне вакол будучай сустрэчы пачало набіраць моц прыкладна месяц таму, калі на аргенцінскім тэлебачанні ў рубрыцы «сацыяльная рэклама» з'явіўся ролік з удзелам Фернанда Зілберберга, капітана аргенцінскай хакейнай каманды. Па сюжэту роліка, Фернанда рыхтуецца да лонданскай Алімпіяды недзе на Фальклендах: спартсмен бегае вуліцамі Порта-Стэнлі (сталіца астравоў) міма розных пазнавальных месцаў. У фінале на экране з'яўляецца слоган: «Каб перамачы на брытанскай зямлі, мы робім трэніроўкі на аргенцінскай зямлі».

Дэманстрацыі такой сацыяльнай рэкламы ледзь не выклікала дыпламатычны канфлікт. Брытанскі бок патрабаваў ад аргкамітэту Алімпійскіх гульняў асудзіць аргенцінскіх рэваншыстаў. Асабліва не спадабалася стужка вайсковым ветэранам Вялікабрытаніі. Яны не могуць прабачыць Фернанда, як ён здзекліва прабег каля мемарыялу памяці 255 брытанскіх салдат, якія паклалі сваё жыццё за тое, каб у 1982 годзе Фальклендзы зноў сталі брытанскімі.

Брытанцы таксама абураныя тым, што фармальна аргенцінскі атлет наведаў архіпелаг для ўдзелу ў нейкім аматарскім марафоне, хаця на самай справе меў сакрэтную місію — наздымаць матэрыял для антыбрытанскай стужкі.

Свае пяць капеек у сварцы паміж МЗС абодвух краін уставіў нават кіраўнік брытанскай дыпламатыі Уільям Хейг. Ён назваў ролік правакацыяй. Па яго словах, такога кшталту правакацыі ў свеце спорту — адзінае, што застаецца рабіць Буэнас-Айрэсу пасля правалу на нядаўнім саміце Арганізацыі Амерыканскіх Дзяржаў у Картахене (Калумбія).

Па ходу таго мерапрыемства аргенцінскі гарант Крысціна Кіршнер заклікала прысутных падтрымаць праект рэзалюцыі, якая патрабуе ад Вялікабрытаніі пачаць перамовы наконт дэкаланізацыі астравоў. У доказ сваіх аргументаў яна таксама нагадала цікавую статыстыку: сёння на планеце засталося 16 калоній. 10 з іх знаходзяцца пад кантролем Лондана, што, па словах Кіршнер, — вялікі анахранізм. Паколькі ўсе спробы навязаць большасці прысутных палітыкаў свой пункт гледжання ў Кіршнер праваліліся, яна вырашыла перанесці вайну на спартовую пляцоўку.

Здаецца, Хейг мае рацыю. Апошнім часам у Аргенціне вельмі рыхтуюцца да Алімпіяды. Хаця спачатку аргенціны ўвогуле думалі не ехаць у Лондан. Калі Лондан атрымаў права на правядзенне гульняў у год юбілею вайны, актыўна абмяркоўвалася тэма байкоту. Аднак у выніку прэзідэнт Кіршнер абвясціла: «Мы паедзем у Лондан, каб вышэй узняць наш сцяг». Яна таксама заклікала спартсменаў быць самаахвярнымі на брытанскіх стадыёнах.

Супрацьстаянне паміж дзвюма краінамі, відавочна, не абмяжуецца хакеем на траве. Разана Бертанэ, дарадчыца прэзідэнта Крысціны Кіршнер, прапанавала, каб сябры аргенцінскай каманды мелі на касцюмах спецыяльныя значкі з надпісам «Мальвінскія астравы — аргенцінскія». Такія ж слоганы павінны быць напісаныя на майках усіх атлетаў з Аргенціны, незалежна ад таго, у якім відзе спорту яны выступаюць і ці будуць іх праціўнікамі англічане.

Некалькі дэпутатаў брытанскага парламенту ад партыі торы ўжо заклікалі ўрад узняць у Міжнародным алімпійскім камітэце пытанне пра ўдзел аргенцінцаў у алімпійскіх гульнях. На іх думку, прысутнасць такіх ваяўнічых надпісаў не адпавядае вядомаму прынцыпу алімпійскага руху: «Спорт — ты мір».

Відавочна, Буэнас-Айрэс хацеў своеасаблівага паўтору матчу Аргенціна—Англія на турніры ў Мексіцы.

Той славуты матч адбыўся 22 чэрвеня 1986 года на стадыёне «Ацтэка» ў мексіканскай сталіцы. Напачатку другога тайма Дыега Марадона паспрабаваў зрабіць дыяганальны пас і працягнуў рух у бок брамы. Ад нагі англійскага паўабаронцы мяч адскочыў у бок штрафной, дзе Марадона нагнаў яго сваім левым кулаком, якім і адправіў мяч у браму.

Рэферы палічыў, што мяч быў забіты галавой, і, нягледзячы на абурэнне англійскіх футбалістаў, гол залічылі. Праз чатыры хвіліны Марадона забіў у вароты праціўніка яшчэ адзін гол, чым прынёс Аргенціне перамогу з лікам 2:1.

На пасляматчавай канферэнцыі аўтар гола заявіў, што спрэчны мяч быў забіты «збольшага рукой Бога». Пазней Марадона назваў гол рэваншам Аргенціны за паразу ў вайне за астравы. У сілу нацягнутасці адносін паміж краінамі прэса Альбіёну ахрысціла гэты эпізод «рукой д'ябла». Дзякуючы гэтаму эпізоду аргенцінцы часткова вярнулі сабе пачуццё нацыянальнага гонару. Цяпер нацыя рыхтуецца да новай серыі вендэты.

Між тым, рыхтуюцца і брытанцы. 17 мая брытанская філія кампаніі «Carlsberg» прадставіла ролік у падтрымку англійскай зборнай на Еўра–2012. Фабула яго ў тым, што маладыя заўзятары англійскай каманды праходзяць вучобу ў Акадэміі англійскіх футбольных фанатаў. Яны сядзяць перад вялікім экранам і вучацца падтрымліваць сваіх. Раптам камера паказвае калідор, дзе чалавек, падобны да Дыега Марадоны, у якасці прыбіральшчыцы швабрай драіць падлогу. Назіральнікі назвалі кліп працягам вайны ролікаў, якую пачаў кліп з удзелам Фернанда Зілберберга.

Такі здзек з куміра аргенцінцаў Дыега Марадоны выклікаў шок на радзіме Кіршнер. У краіне ўжо пачалася кампанія байкоту піва «Carlsberg».

Як бачым, нацыяналістычныя эмоцыі на берагах Ла-Платы і Тэмзы абвастраюцца, хаця здаюцца трошкі абсурднымі. Дарэчы, дэсантам аргенцінскіх войскаў на Фальклендскія выспы ў 1982 годзе камандаваў адмірал Карлас Бусэр — аргенцінец брытанскага паходжання.

НАСТРОІ

# МАНАРХІЯ ЎСЁ БОЛЬШ ПАПУЛЯРНАЯ

Алег НОВІКАЎ



**Дзякуючы ўрачыстасцям з нагоды знаходжання Елізаветы II на троне, Вялікабрытанія перажывае беспрэцэдэнтны рост манархісцкіх настрояў. Аднак у рэспубліканцаў ёсць свой каварны план.**

Першыя сацыялагічныя апытанні наконт таго, ці падабаецца інстытут манархіі і непасрэдна цяперашні манарх, пачалі праводзіцца ў Вялікабрытаніі дасттаткова позна. Відавочна, што сама пастаноўка пытання пра гэта гучала неяк крамольна, паколькі ў законе дасюль захаваўся крымінальны артыкул за знявагу манархічнага ладу.

Толькі ў 1964 годзе агенцтва «British Election Study» задало брытанцам гэта пытанне. Вынікі былі такімі: больш за 60 працэнтаў рэспандэнтаў пазітыўна ацэньвалі дзейнасць маладой каралевы Елізаветы II. Ненавіснікаў манархіі было не больш за 10 працэнтаў.

Рэйтынг каралевы заставаўся стабільным усе 1960-я гады, пакуль не пачаліся студэнцкая і рок-рэвалюцыя. У 1969 годзе ўпершыню папулярнасць каралевы ўпала, праўда нязначна — да 57 працэнтаў, затое колькасць аматараў рэспублікі на Альбіёне вырасла да фантастычнай лічбы — 27 працэнтаў.

Безумоўна, свой унёсак у статыстыку зрабілі «Beatles», якія ў той час фармавалі густы моладзі, а пасля — і сярэдняга класу. «Бітлы» як выхадцы з пралетарскай поўначы ніколі не любілі кіруючы клас. У 1963 годзе яны нахабна прыкалоліся з каралевы падчас канцэрту ў Букінгемскім палацы. Джон Ленан заклікаў прысутных арыстакратаў замест апладысментаў патрэсці сваімі ўпрыгожаннямі. Трошкі пазней музыкі дэманстратыўна выкінулі атрыманыя імі раней медалі за службу Брытанскай імперыі.

У 1977 годзе, калі адзначаўся срэбны юбілей знаходжання каралевы на троне, канфрантацыя паміж моладзевай субкультурай і манархіяй дасягнула кульмінацыі. Вялікай папулярнасцю карыстаўся славуты хіт панк-гурта «God Save the Queen», дзе ёсць словы пра тое, што «манархія — гэта фашысцкі рэжым». На гэты час каралеву любілі не больш за 50 працэнтаў брытанцаў.

Уздым папулярнасці Віндзараў пачынаецца толькі ў 1981 годзе, пасля таго, як у Букінгемскім палацы з'явілася прынцэса Дыяна Спенсер. У 1985-м, дзякуючы Дыяне, 70 працэнтаў брытанцаў пачалі пазітыўна ставіцца да каралеўскай сям'і. І гэта не дзіўна — уся Англія ўсхвалявана назірала за перыпетыямі яе шлюбу з прынцам Чарльзам, у якога былі відавочныя адносіны з Камілай — яго будучай другой жонкай.

Адпаведна, калі ў 1998 годзе Лэдзі Дзі загінула ў аўтакатастрофе, адказнасць усё дружна перакалалі на тую ж самую ўчора яшчэ любімую каралеўскую сямейку. У гэтым годзе быў зафіксаваны самы нізкі ў гісторыі ўзровень даверу да інстытутаў манархіі. Толькі 20 працэнтаў жыхароў Вялікабрытаніі лічылі, што скасаванне манархічнага ладу ўяўляе для краіны нешта кепскае.

Было патрэбна прыблізна 20 гадоў, каб грамадская думка кардынальна змяніла прыярытэты. Толькі пасля вяселля прынца Вільяма і Кейт Мідлтан у мінулым годзе армія сімпатызантаў манархіі стала складаць большую частку насельніцтва брытанскіх выспаў.

А цяпер у атмасферы святкавання дыяментавага юбілею ўвогуле адбываецца нешта неверагоднае. Адпаведна апытанням выдання «Guardian», 69 працэнтаў брытанцаў лічаць, што без наяўнасці структур манархіі нацыі было б горш. І толькі 10 працэнтаў апытаных выступаюць за тое, каб у выпадку смерці каралевы адбыліся ўсенародныя выбары кіраўніка дзяржавы. Антыманархісцкія сантыменты дамінуюць толькі ў Шатландыі, дзе традыцыйна моцныя левыя партыі.

Адпаведна іншаму сацыялагічнаму агенцтву «Ipsos Mori», упершыню з 1990 года Елізавета II стала больш папулярнай за прынцэсу Дыяну. У дадатак каралева становіцца сапраўдным лідарам нацыі. Яе дзейнасць падабаецца 78 працэнтам апытаных.

Культ Елізаветы II яўна пераходзіць усе межы разумнага. Так, у грамадстве ўзнікла ініцыятыва перайменаваць славуты лонданскі Біг-Бэн у Вежу Елізаветы.

Палітолагі і культуролагі трактуюць прыліў манархічных сантыментаў як рэакцыю грамадства на актуальныя палітычныя і сацыяльныя працэсы. Так, каралеву ў тым ліку любяць з-за крызісу даверу да палітычнай эліты. Мікраскапічнымі ў параўнанні з рэйтынгам Яе Вялікасці выглядаюць рэйтынгі вядучых палітыкаў. Так, кіраўніку кабінета кансерватараў Дэвіду Кэмерану верыць 11 працэнтаў, а лідару лейбарысцкай апазіцыі Эду Мілібэнду — 12.

Пры гэтым аказваецца, што ў Елізаветы II значна больш палітычнай волі. Менавіта пры ёй брытанская манархія прызнала правы каталікоў, дазволіла рэформу англіканскай царквы, дзе кіруючыя пасады цяпер могуць займаць жанчыны. Жанчыны таксама атрымалі права займаць трон.

Аднак, на думку палітолагаў, найбольшую павагу выклікае такая якасць каралевы, як уменне трымаць язык за зубамі, не лезці ў палітыку і дысцыплінавана выконваць цырыманіял.

Як ні парадаксальна, у рэспубліканскім лагеры не назіраецца асаблівай панікі. Надзею на перамены рэспубліканцы звязваюць з тым фактам, што манархічная супольнасць краіны моцна падзеленая. Па падліках «Guardian», 39 працэнтаў аматараў манархіі выступаюць за тое, каб карону атрымаў прынц Чарльз. З другога боку, 49 працэнтаў апытаных хацелі б, каб яе насіў малады прынц Вільям.

Гэты падзел стварае, калі верыць рэспубліканцам, амаль рэвалюцыйную перспектыву. У выпадку, калі адна са згаданых асобаў стане манархам, фракцыі перасварацца, што будзе не проста сямейным канфліктам. У Вільяма і ў Чарльза свой сфармаваны электарат. Так, за караля Вільяма агітуюць выбаршчыкі лейбарыстаў і моладзь. Таму вынікам канфрантацыі прыхільнікаў бацькі і сына можа стаць як мінімум кампраметацыя манархіі і магчымая канстытуцыйная рэформа.

Ну а пакуль рэспубліканцы рыхтуюцца правесці самую вялікую антыманархічную акцыю за 60 гадоў праўлення Елізаветы II. З чэрвеня яны ладзяць маніфестацыю ў Лондане, каб адзначыць «60 бяздарных гадоў персанальнага абагачэння, слабага лідарства і нежадання дазволіць вольнае галасаванне па пытанню, ці мае права каралева кіраваць краінай».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### БЕРНД ШЛЁМЕР



Бернд — старшыня нямецкай Партыі Піратаў, якая на фоне расчаравання старымі палітыкамі імкліва набірае балы. Нагадаем, што партыя за паўгода прайшла ў тры зямельныя парламенты і мае добрыя шанцы, каб на выбарах у наступным годзе ўвайсці ў Бундэстаг. Пры гэтым усе лічылі, што Піраты — партыя левая, паколькі выступае супраць аўтарскіх правоў на кампутарны софт. Гэта значыла, што патэнцыйна яна магла падтрымаць левую кааліцыю сацыял-дэмакратаў і Зялёных. Аднак Бернд Шлёмер усё зблытаў, заявіўшы ў інтэрв'ю часопісу «Focus» пра тое, што Піраты — не левая партыя. «Мы не такія блізкія да сацыял-дэмакратаў і зялёных, як часта лічаць», — сказаў Шлёмер. Ён таксама адзначыў, што «па-сутнасці мы (Піраты) ліберальная партыя, якая выступае за вольны рынак». Кульмінацыяй інтэрв'ю стала наступная фраза: «Хрысціянскія дэмакраты — больш сучасная партыя, чым эсдэкі». Пакуль цяжка сказаць, наколькі аднапартыйцы Шлёмера падзяляюць падобныя погляды, аднак лаяльнасць Піратаў да партыі Меркель можа дапамагчы апошняй застацца пры ўладзе пасля наступных выбараў. Пакуль што, па апытаннях, яе «Хрысціянска-дэмакратычны саюз» і саюзнікі з партыі «Свабодных дэмакратаў» прайграюць эсдэкам і Зялёным.

### АРТУР ГАЮЛЬСКІ



Гаюльскі — сябра партыі «Справядлівая Расія», кандыдат у Краснаярскі краявы парламент на выбарах у снежні мінулага года, вынікі якіх застаюцца і зараз не вядомымі. Раней Гаюльскі падаў у суд на перагляд вынікаў выбараў. Здавалася, справа банальная, аднак імя Гаюльскага пачало набываць прысмак сепаратызму. Справа ў тым, што сам Гаюльскі паходзіць з эвенкаў, аўтаномію якіх ліквідавалі ў 2005 годзе, уключыўшы ў склад Краснаярскага краю. За добраахвотную самаліквідацыю сваёй дзяржаўнасці эвенкам тады абяцалі залатыя горы: асаблівыя датацыі, стварэнне новых працоўных месцаў, і нават адкрыццё тут філіялу Універсітэта народаў Поўначы. Як толькі аўтаноміі не стала, пра абяцанкі забыліся. Адпаведна, у былой акрузе цяпер назіраецца ўсплёск сепаратысцкіх настрояў. У населеных пунктах Эвенкіі, якая па памерах, дарэчы, роўная Францыі, рэгулярна сталі з'яўляцца ўлёткі з патрабаваннем выйсці са складу Краснаярскага краю і зноў стаць самастойным суб'ектам. Яшчэ больш распаліў незадаволенасць судовы працэс з удзелам Гаюльскага. Зараз яго скаргу разглядае Краснаярскі краявы суд, каля будынку якога эвенкійскія сепаратысты пачалі праводзіць акцыі пратэсту.

### КІМ ЧЭН ІН

Новы лідар Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі (КНДР) атрымаў у афіцыйных СМІ ганаровы тытул «Бацька спартсменаў». Усё таму, што зараз ён асвойвае ролю правадыра нацыі, у абавязак якога таксама ўваходзіць кантроль за падрыхтоўкай зборнай краіны да міжнародных спаборніцтваў. Тым больш, прыкладна праз месяц у Лондане пачнецца Алімпіяда. Паехаць у Вялікабрытанію Кім Чын Ін, зразумела, не можа, таму ён зараз актыўна трэніруе зборную. Амаль штодня паказваюць, як ён дае інструкцыі атлетам. Найбольш увагі ён надае камандзе па стральбе, паколькі ў гэтым відзе спорту паўночныя карэйцы могуць разлічваць на медалі. 28 мая карэйскі лепшы сябра фізкультурнікаў асабіста наведаў лагер падрыхтоўкі стралкоў і павучыў іх, як правільна страляць. Праўда, думаецца, страляць яны і так будуць намагацца вельмі старанна. Дасюль у спартовых колах узгадваюць лёс футбалістаў зборнай КНДР, якія, хаця і дастойна, аднак прайгралі на чэмпіянаце свету па футболу ў Паўночнай Афрыцы ўсе матчы. Пасля вяртання дахаты, трэнера накіравалі працаваць на руднікі. Дарэчы, на днях з'явілася інфармацыя, што кіраваў футбалістамі на полі не столькі той трэнер, колькі Кім Чэн Ір — папярэднік Кім Чэн Іна. Той праз мабільную сувязь з Пхеньяну даваў трэнеру мудрыя парады наконт тактыкі гульні і складу на поле.



▸ СПАДЧЫНА

# ГЕНЕРАЛ ЯН КАНОПКА

Сяргей ЧЫГРЫН

**У 1812 годзе супраць расійскіх войскаў на баку Банапарта Напалеона выступалі пяць ліцвінскіх палкоў пяхоты і чатыры ўланскія палкі. Адным з напалеонаўскіх военачальнікаў і арганізатарам славутай імператарскай гвардыі быў генерал Ян Канопка.**


Ян Канопка


Яфім Чапліц


Ахоўны крыж, устаноўлены пасля вайны 1812 года каля вёскі Вострава Слонімкага раёна

Нарадзіўся Ян Канопка ў маёнтку Скоўдзічы Слонімскага павета 27 снежня 1777 года (па іншых звестках — 1775 года) у сям'і ліцвінскіх (беларускіх) шляхціцаў Францішка і Ганны Канопкаў. Калі Яну споўнілася 15 гадоў, ён пайшоў на вайсковую службу ў Другі ўланскі полк і змагаўся супраць рускіх войск у складзе Восьмай украінскай брыгады Народнай кавалерыі, якой кіраваў генерал Станіслаў Макраноўскі. Малады Ян Канопка спадабаўся генералу Макраноўскаму сваёй смеласцю і рашучасцю, асабліва ён вызначыўся ў бітвах пры Барушкаўцах і Зелянцах.

Калі пачалося паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, да яго далучыўся і Ян Канопка. Ён, як і Тадэвуш Касцюшка, пакляўся змагацца за непарушнасць Рэчы Паспалітай, устаноўленне самаўладдзя народа і ўсеагульную свабоду. Спачатку Ян Канопка вызначыўся пры абароне Варшавы, пасля чаго атрымаў званне лейтэнанта. Лейтэнант Канопка едзе на Літву і далучаецца да дывізіі Серакоўскага. У бітве пад Мацяёвіцамі паказаў сябе адважным воінам, хаця быў паранены ў руку. Восенню 1794 года за адвагу і мужнасць у баях, Тадэвуш Касцюшка яго ўзнагародзіў пярсцёнкам з надпісам: «Айчына свайму абаронцу».

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Ян Канопка эміграваў у Францыю, дзе адразу паступіў на вайсковую службу ў Першы гусарскі полк, а 21 сакавіка 1796 года атрымаў званне суб-лейтэнанта. Падчас службы пазнаёміўся з капітанам Язэпам Сулкоўскім. Капітан Сулкоўскі ў Валезе меў гонар прадставіць Яна Канопку генералу Банапарту Напалеону. Напалеону спадабаўся Канопка, і яго прызначылі на службу ў Легіён Ламбардыі (Legion de Lombardie) са званнем лейтэнанта.

З гэтага часу пачаліся нялёгкія вайсковыя і ваенныя будні Канопкі. Ён удзельнічае супраць краін Першай і Другой антыфранцузскай кааліцыі. 4 лютага 1797 года Ян вызначыўся пры захопе аўстрыйскай батарэі пад Феанцэй, за што быў пераведзены ў званні капітана ў Першы грэнадзёрскі батальён польскіх легіёнаў. Пад кіраўніцтвам генералаў Шампіённэ і Макдональда актыўна ўдзельнічае ў баявых дзеяннях супраць Неапалітанскага каралеўства, пад кіраўніцтвам капітана Княжэвіча выдатна паказаў сябе ў баях пры Чывіта-Кастэлана, потым на рацэ Трэбіі, пры Боска і Нові. А пры Рассігліёне разам са сваімі 150 легіянерамі захапіў аўстрыйскую пазіцыю, якую абараняў гарнізон з дзвюх тысяч салдат.

Баявыя дзеянні і перамогі Яна Канопкі працягваюцца і тады, калі ён у 1800 годзе змагаецца на Дунаі пад камандаваннем Віктара Маро. За гэтыя заслугі ён становіцца шэфам батальёна і перамагае ў баях пры Гагенліндэне.

Пасля таго, як быў заключаны мір, наш вайсковец служыць у Італіі шэфам эскадрона польскай кавалерыі генерала Аляксандра Ражнецкага, удзельнічае ў кампаніях 1805–1806 года пад камандаваннем прынца Багарнэ.

У сакавіку 1807 года Ян Канопка (ужо маёр Пятага палка егераў) прымае ўдзел у Польскай кампаніі, а летам змагаецца пры Фрыдландзе. Канопка хутка займаецца рэарганізацыяй польска-італьянскага легіёна ў Першы ўланскі полк Віслінскага легіёна і ў званні палкоўніка яго ўзначальвае.

З 1808 года палкоўнік Ян Канопка змагаецца ў Іспаніі, удзельнічае ў аблозе Сарагосы, вызначаецца ў баях пры Тудзеле і Малене, а таксама ў баявых аперацыях супраць партызан, якія называлі яго полк «пякельнымі піканосцамі».



Мясціны, дзе нарадзіўся Ян Канопка

У сакавіку 1809 года Яна Канопку выклікаюць у Парыж. Праз год ён прызначаецца камандзірам Віслінскага палка і восенню выступае супраць англа-іспанскіх пазіцый, умела атакуе брытанскую пяхотную брыгаду падпалкоўніка Джона Колбарна. Яго вайскоўцы непрыкметна падняліся на ўзвышаную мясцовасць і пачалі біцца з англічанамі. Праз некалькі хвілін са 1600 салдат Колбарна былі забітымі і паранеными 1300 і захоплена 5 штандараў. 6 жніўня 1811 года за гэты подзвіг і за ўсе ранейшыя перамогі Яну Канопку было прысвоена званне брыгаднага генерала, ён быў узнагароджаны Залатым крыжам ордэна «Virtuti Militari».

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай шмат хто з беларусаў (ліцвінаў) спадзяваўся на Напалеона Банапарта, што менавіта ён дапаможа адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае. Тым больш, што Напалеон у 1807 годзе стварыў Варшаўскае княства. А калі землі былога Вялікага Княства Літоўскага былі вызвалены з-пад расійскага прыгнёту, Напалеон утварыў і Камісію Часова ўраду Вялікага Княства. Сябры Камісіі прысягнулі на вернасць імператару, гэта значыць, што Беларусь фармальна была абвешчана саюзніцай Францыі. Камісія Часовага ўраду з дазволу імператара пачала ствараць уласныя ўзброеныя сілы, якія далучаліся да напалеонаўскай арміі. Гэту Камісію з радасцю падтрымаў і генерал-ліцвін Ян Канопка.

З дазволу Напалеона Ян Канопка сфармаваў Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі. Гэты полк непасрэдна падпарадкоўваўся Напалеону і насіў «не белую кукарду, а французскую трохкаляровую з накладзеным на яе белым мальтыйскім крыжам», хацця ўсе жаўнеры-ліцвіны насілі кукарду «Пагоня». Да Яна Канопкі далучыўся і эскадрон беларускіх татараў на чале з Мустафой Ахматовічам. Усяго на баку Напалеона ваявалі 24 тысячы беларускіх жаўнераў, а па іншых звестках — 80 тысяч, а на баку Кутузава — 32 тысячы.

У сярэдзіне кастрычніка 1812 года расійскі генерал-маёр Яфім Чапліц даведаўся, што з Гродна на Мінск рухаецца гвардзейскі ліцвінскі полк Яна Канопкі. Яго аснову складала моладзь былога Вялікага Княства Літоўскага. Там служылі Валовічы, Ромеры, Платэры, Хлявінскія, Пузыны, Пуслоўскія, Памарнацкія ды іншыя ўнукі і праўнукі шляхецкіх родаў. Полк быў добра ўзброены і меў, адпаведна, на 444 чалавекі 121 фурманку. Разам з палком ехалі жонкі генералаў Канопкі, Дамброўскага і Заёнчака. У родным Слоніме Канопка вырашыў затрымацца на некалькі дзён. Днём вайскоўцы заклікалі да сябе ў полк слонімскіх юнакоў, тлумачылі людзям намеры Напалеона аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. І гэта давала плён. Хутка полк Яна Канопкі налічваў ужо 800 чалавек. А вечарам гвардзейцы шпацыравалі з маладымі паненкамі. Такі шпацыр у Слоніме яны наладзілі і 19 кастрычніка. Хаця аўстрыйскі генерал Мор, адступаючы з-пад Пінска, і генерал Дамброўскі з-пад Барысава папярэджвалі Канопку, што рускія наступаюць з поўдня праз Брэст вялікімі сіламі. Але генерал не думаў, што рускія так хутка могуць дабрацца да Слоніма.

Пакуль гвардзейцы адпачывалі ў Слоніме, да Пружан дайшоў рускі перадавы атрад генерала Чапліца. Пасля нялёгкай дарогі рускія рыхтуюцца да адпачынку. Але хутка атрымліваюць загад адмірала Чычагава — атакаваць конна-гвардзейскі полк Яна Канопкі ў Слоніме. Генерал Чапліц выклікае да сябе капітана Івана Арнольдзі: «Маю пра вас звесткі, капітан, што вы добра ведаеце Слонім». «Так, — адказвае Арнольдзі. — Тры гады кватараваў у гэтым горадзе. Меў гонар быць ад'ютантам пры графе Кутайсаве». — «У такім выпадку я спадзяюся на вас».

Калі гулянка была ў самым разгары, да Канопкі падбягае яго ад'ютант Стральбіцкі і дакладвае, што да Слоніма падыходзяць рускія. Хутка баль сціхае. Госці разбягаюцца. А Канопка імгненна пад аховай нешматлікага эскорту выпраўляе ў Дзярэчын казну і генеральскіх жонак. А сам з палком уцякае на Вільню. Толькі яны зніклі, як Арнольдзі з некалькімі казакамі прабраўся да дома Канопкі. Але нідзе нікога ён так і не знайшоў.

Капітан Арнольдзі адразу пасылае ганца да Чапліца, каб паведаміць пра ўцёкі Канопкі, а сам з невялікім атрадам пускаецца па дарозе на Дзярэчын. За пяць кіламетраў ад Дзярэчына, які піша Міхась Скобла ў сваёй кнізе «Дзярэчынскі дыярыуш», каля вёскі Галынка, рускія дагналі ўцекачоў. Завязаўся няроўны бой. Казну Арнольдзі захапіў, а вось генеральскія жонкі паспелі пераправіцца на пароме праз рэчку Луконіцу і схавацца ў дзярэчынскім палацы Сапегаў.

Калі Яфім Чапліц даведаўся пра тое, што генерал Канопка ўцёк, асабіста бярэ атрад гусараў і казакоў, імчыць за ўцекачамі па віленскай дарозе. Праз некалькі гадзін рускія даганяюць ліцвінскі полк, пачынаецца рукапашны бой. Рускім удаецца адрэзаць частку палка Яна Канопкі ад галоўнага атрада ўланаў. А ўраднік Дзячкін, дагнаўшы Яна Канопку, раніць яго дзідай і бярэ ў палон. У палон таксама трапілі палкоўнік Хлусевіч, капітаны Дзяржынскі, Солтан, Дэге, Ронікер, Тышкевіч, Ляном, Лукоўскі, 5 паручнікаў, 42 унтэр-афіцэры, 5 трубачоў і 170 жаўнераў.

Вось так сустрэліся два ліцвіна — Канопка і Чапліц, якія ваявалі па розныя бакі барыкад. Яфім Чапліц быў родам з дваран Магілёўскай губерні. Але яго карані шляхецкага роду Чапліцаў — прынёманскія. У канцы XVII стагоддзя Чапліцы валодалі невялікімі маёнткамі ў Лідскім павеце. Вось як іх гутарку апісаў кандыдат ваенна-тэхнічных навук Яўген Леашэня (1900–1981) у сваёй рукапіснай працы "Да гісторыі Слонімшчыны", якая захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі:

— Не думаў я, генерал, што адважныя так уцякаюць! — сказаў Чапліц.

Канопка абурыўся:

— Я жадаў бы памерці ў баі!

— Дазволю ў вас спытаць, за што? — пацікавіўся Чапліц.

— За свабоду Айчыны… — пачаў казаць Канопка.

— Якую хацелі набыць у радах захопніцкай арміі Напалеона, — спыніў яго Чапліц і, ужо адыходзячы, дадаў: — Яшчэ Аляксандр Неўскі казаў: хто пойдзе на нас з мячом, той ад мяча і загіне. Шкада, але вы не ўлічылі гэтага, генерал…

Самае цікавае ў сустрэчы гэтых двух генералаў тое, што між сабой яны гутарку вялі па-беларуску.

Пасля гэтага Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі генерала Яна Канопкі спыніў сваё існаванне як баявая адзінка. А сам генерал быў арыштаваны і адпраўлены ў палон у Санкт-Пецярбург. З паўночнай сталіцы Расіі праз год яго накіравалі ў Херсон, дзе ён цяжка захварэў. У 1814 годзе Яна Канопку вызвалілі з палону, і ён як прыватная асоба прыехаў у Варшаву. Там яму хутка прапанавалі ўзначаліць Першую кавалерыйскую брыгаду Каралеўства Польскага. Але генерал адмовіўся. Па-першае, ён моцна хварэў, па-другое, служыць Каралеўству Польскаму ён не жадаў: да самай смерці генерал марыў пра адраджэнне сваёй Бацькаўшчыны — Вялікага Княства Літоўскага.

1 студзеня 1815 года (па іншых звестках — 20 снежня 1814 года) генерала Яна Канопкі не стала. Ён памёр у Варшаве, але прасіў пахаваць яго на Слонімшчыне. Дзе пахавалі генерала — да сённяшніх дзён не вядома. Па адной з версій, ён быў пахаваны ў роднай вёсцы Скоўдзічы Слонімскага павета альбо ў Слоніме. Па іншых звестках — у Дзятлаве ці ў вёсцы Дубраўка на Дзятлаўшчыне. Былы дырэктар Дзятлаўскага раённага музея Фёдар Красюк сказаў: «Я некалі цікавіўся асобай Яна Канопкі. І шмат гадоў з краязнаўцамі шукаў яго магілу і на вясковых могілках у Дубраўцы, і на могілках у Дзятлаве. Але мы магілы генерала так і не знайшлі. Калі б ён быў пахаваны на адных з гэтых могілак, то гэта магіла была б нам усім знаёма, але яе нідзе няма. Ці то час яе зруйнаваў з зямлёй, ці проста генерал быў пахаваны ў іншым месцы». Пакуль не ўдалося знайсці яго магілы і ў вёсцы Скоўдзічы, і на ўсіх слонімскіх могілках.

ЦІКАВА

# ДЗЕ ТРЫМАЛІ ГРОШЫ ЖЫХАРЫ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Два гады таму ў аэрапорце Кракава польскімі мытнікамі быў затрыманы грамадзянін Польшчы, які спрабаваў вывезці ў Вялікабрытанію чатыры рарытэтныя залатыя манеты канца XIX — пачатку XX стагоддзя наміналам у 20 долараў ЗША. Як аказалася, залатыя кругляшы 1882, 1889, 1894 і 1904 гадоў выпуску захоўваліся ў сям'і нябдалага кантрабандыста яшчэ з часоў міжваеннай Польшчы. Тады, у 1920–1930-х гадах, залатыя долары былі надзейным сродкам захавання капіталу і для шматлікіх жыхароў заходнебеларускіх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай, а продаж гэтых каштоўных манет ажыццяўляла разгалінаваная банкаўская сетка.**

Гісторыя некаторых банкаў, якія працавалі ў Заходняй Беларусі, заслугоўвае асобнай увагі. Галоўнай крэдытна-фінансавай установай Польшчы быў акцыянерны Банк Польскі, створаны ў студзені 1924 года. Менавіта ён стаў галоўным эмісійным цэнтрам, што выпускаў новыя папяровыя банкноты, якія абапіраліся на міжнароднай сістэме «Gold Exchange Standard». Гэта адзначала, што ў склад пакрыцця эмісіі ўваходзіла золата, а таксама валюты іншых еўрапейскіх дзяржаў. За выпуск манет адказвала дзяржаўнае казначэйства.

Усяго дзейнічала каля 50 аддзяленняў Банка Польскага. У Заходняй Беларусі яны знаходзіліся ў Баранавічах, Слоніме, Ваўкавыску, Вільні, Пінску, Кобрыне, Гродна і Брэсце. Галоўнай задачай Банка Польскага было крэдытаванне сельскагаспадарчых і прамысловых прадпрыемстваў, а таксама падтрымка стабільнага курсу злотага. Акрамя гэтага, у аддзяленнях банка прадаваліся манеты з каштоўных металаў, у тым ліку і залатыя долары. У справаздачы аб дзейнасці Прамыслова-гандлёвай палаты ў Вільні за 1930 год адзначалася, што крэдытная дзейнасць Банка Польскага спрыяла развіццю дробнага гандлю і прамысловасці ў паўночна-ўсходніх ваяводствах II Рэчы Паспалітай.

Найбольш папулярным сярод жыхароў Заходняй Беларусі быў створаны ў 1919 годзе банк — Паштовая ашчадная каса (PKO). Адкрыць рахунак у ім можна было як у аддзяленнях банка, так і на пошце. За гэта банку даводзілася плаціць значныя камісійныя Міністэрству пошты і тэлеграфаў, але справа таго каштавала. Эканамічны крызіс пачатку 1930-х не аказаў вялікага ўплыву на дзейнасць Паштовай ашчаднай касы. Важнай сферай дзейнасці гэтага банка было страхаванне жыцця і маёмасці.

Яшчэ адным папулярным ашчадным банкам былі касы Стэфчыка. Гэтыя фінансавыя ўстановы з'явіліся ў Галіцыі яшчэ ў 1899 годзе і былі створаны па ўзору крэдытна-кааператыўных спажывецкіх кас Фрыдрыха Райфайзена. Іх асноўнай мэтай было фінансаванне прыватных сельскіх гаспадарак і прадпрымальнікаў. Некалькі такіх устаноў дзейнічала ў Навагрудскім, Палескім і Віленскім ваяводствах.

Асобнай групай банкаў былі ўстановы, якія курыравалі асобныя напрамкі прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Адным з такіх быў Банк вытворчасці цукру. Акрамя крэдытавання прадпрыемстваў па вытворчасці салодкага прадукту, банк займаўся скупкай і продажам цукру. Склады банку знаходзіліся, між іншым, у Баранавічах, Брэсце, Пінску, Вільні. Галоўнымі замежнымі партнёрамі банку былі лонданскі банк «The British Overseas Bank» і галандскі «Suikermaatschappij». У сваю чаргу, Віленскі зямельны банк быў адным са старэйшых банкаў на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай. Ён быў створаны яшчэ ў 1872 годзе і паспяхова канкураваў з расійскімі Пецярбурска-Тульскім і Маскоўскім банкамі. Галоўнай яго функцыяй было крэдытаванне землеўласнікаў. Гэтым банк працягваў займацца і ў часы міжваеннай Польшчы. Ён выпускаў закладныя вэксалі, якія наміналаваліся як у злотых, так і ў доларах ЗША. У 1928–1931 гадах сума дывідэндаў, якія выплачваліся па вэксалях, складала 13,5% ад іх намінальнай каштоўнасці, што па тагачасных еўрапейскіх мерках было досыць высокім паказальнікам. Цікавым было і тое, што Віленскі зямельны банк быў адзіным польскім банкам, які выплачваў дывідэнды на працягу ўсяго перыяду сусветнага эканамічнага крызісу пачатку 1930-х.

Нарэшце, яшчэ адным уплывовым банкам, які працаваў у паўночна-ўсходніх ваяводствах II Рэчы Паспалітай, быў Дзяржаўны сельскагаспадарчы банк. Яго заснавальнікамі лічацца знакамітыя польскія эканамісты і публіцысты Здзіслаў і Севярын Людкевічы. Галоўнай задачай гэтай фінансавай установы была падтрымка асадніцтва, прац па меліярацыі зямель, сельскагаспадарчай вытворчасці, а таксама арганізацыя крэдытных ліній для дробных і сярэдніх сялянскіх гаспадарак. Дзяржаўны сельскагаспадарчы банк падтрымліваў крэдытамі сельскагаспадарчыя ашчадныя касы і саюзы сялянскага самакіравання. Гэтая ўстанова распараджалася дзяржаўнымі сродкамі, выдаткаванымі на развіццё сельскай гаспадаркі. З 1925 года банк увёў доўгатэрміновы крэдыт для сялян і асаднікаў. Акрамя гэтага, Дзяржаўны сельскагаспадарчы банк ажыццяўляў звычайныя банкаўскія аперацыі па адкрыццю ўкладаў для фізічных і юрыдычных асоб. Яго аддзяленні знаходзіліся, між іншым, у Вільні і Пінску.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Ужо напярэдадні нападу Германіі на Польшчу жыхары Заходняй Беларусі пачалі здымаць свае сродкі з рахункаў у банках. Але дзе хаваць дабро? Лепшым месцам дзеля гэтага спакон вякоў лічылася зямля. Вось і пачалі заходнія беларусы хаваць свае кроўна заробленыя грошы ў розныя закуткі ў хатах ды ў зямлю. Тыповай з'яўляецца гісторыя, якую расказала мне дачка афіцэра Войска Польскага, беларуса, Віктара Амельянюка з Кобрына. Перад вайной яе бацька працаваў страхавым інспектарам у Брэсце і няблага зарабляў. З заробку адкладваў грошы і купляў усё тыя ж залатыя долары. На пачатак вайны ў сям'і было 6 дваццацідоларавых залатых манет. У верасні 1939-га Віктар Амельянюк быў мабілізаваны, а яго жонка вырашыла схаваць скарб. Як аказалася, назаўсёды.

Зусім нядаўна пры будаўнічых працах у Брэсце было знойдзена некалькі дзясяткаў польскіх манет на агульную суму ў 13 злотых, якія схаваў на пачатку Другой сусветнай гаспадар дома. Год таму на месцы, дзе ў 1930-х гадах знаходзіўся маёнтак Ракавіцы, які належаў прэзідэнту Брэсцкага аддзялення крэсовага саюза шляхты Тэадору Талочку, былі знойдзены польскія манеты на агульную суму ў некалькі дзясяткаў злотых. У 1930-х гадах гэта былі немалыя грошы, таму што за 10 злотых можна было набыць парася, а за 20 — нават карову. Больш таго, жыхар Віленскага, Навагрудскага ці Палескага ваяводства, які меў 100 злотых, лічыўся вельмі багатым чалавекам. 17 верасня 1939 года ўладальнік маёнтка Ракавіцы разам з сям'ёй перад самым прыходам людзей з чырвонымі апаскамі на руках здолеў пакінуць родавы маёнтак і выехаць на Захад. А вось яго злотыя засталіся на радзіме.

Адносная фінансавая стабільнасць, якая панавала ў заходнебеларускіх ваяводствах II Рэчы Паспалітай, скончылася з пачаткам Другой сусветнай вайны. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза польскія банкі, якія працавалі на гэтых тэрыторыях, былі зачыненыя, а грошы, якія ў іх знаходзіліся, — нацыяналізаваныя. Хутка быў уведзены савецкі рубель.

Колькі гадоў ужо мінула з тых часоў, але ў шматлікіх жыхароў заходніх абласцей сучаснай Беларусі да сённяшняга дня захоўваюцца старыя «ашчадныя кніжкі» з арлом у кароне ці папяровыя грошы «панскай» Польшчы. Здаецца, навошта яны патрэбны? Насамрэч, гэтыя дакументы з'яўляюцца важнымі крыніцамі па адным з цікавых аспектаў нашай нацыянальнай гісторыі.



Залатыя 20 долараў ЗША 1933 г.



Ашчадкніжка жыхара Заходняй Беларусі Філіпа Драгуна, 1928 г.


Будынак кас Стэфчыка. Дзесьці ў Заходняй Беларусі


Прэзідэнт Брэсцкага аддзялення крэсовага саюза шляхты Тэадор Талочка


Польскія грошы 1930-х

ФЭСТ

# «ГАЛЬШАНСКІ ЗАМАК–2012»: АДКРЫТЫ ЎРОК РЫЦАРСТВА

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Адна з самых важных задач фестывалю «Гальшанскі замак», якую паставілі перад сабой арганізатары, — прыцягненне ўвагі дзяржаўных і прыватных структур да лёсу гэтай пярліны сярэднявечнага абароннага дойлідства. Фэст праводзіцца не толькі для папулярызацыі старонак гісторыі Гальшанскай зямлі і яе выдатных асоб — князёў Гальшанскіх, і пачынальніцы дынастыі Ягелонаў Сафіі Гальшанскай у прыватнасці, — але і для актывізацыі больш канкрэтных спраў. Галоўная з іх — аднаўленне Гальшанскага замка.**

Пра гэтую праграму і шляхі яе рэалізацыі ішла размова падчас прэс-канферэнцыі, у якой удзельнічалі намеснік старшыні Ашмянскага райвыканкама А. Саванец, старшыня Гальшанскага сельскага выканаўчага савета В. Коўзан і кіраўнік праекта па даследаванню і аднаўленню замка І. Раханскі. Журналісты і ўдзельнікі фестывалю «Гальшанскі замак» з цікаўнасцю даведаліся пра тыя захады, якія робяцца для выратавання ўнікальнага помніка сярэднявечнай архітэктуры. З цяперашнім станам навукова-даследчых работ па вывучэнню гісторыі і стану замкавых сцен і вежаў для мясцовых жыхароў і гасцей мястэчка была створана тэматычная выстава «Гальшанскі альфабэт», з якой можна было пазнаёміцца ў сельсавеце.

Вынік прэс-канферэнцыі падвёў намеснік старшыні Ашмянскага райвыканкама Аляксандр Анатольевіч Саванец, які падкрэсліў: «Праект па аднаўленню Гальшанскага замка быў унесены ў дзяржаўную праграму «Замкі Беларусі», і таму мы пачалі працу над рэалізацыяй пачатковай яго часткі — праекта «Дух рамантычных руін», які з'яўляецца ўнікальнай спробай віртуальнага ўзнаўлення тагачаснай эпохі, калі тут жыла Сафія Гальшанская». Спадзяемся, што пасля віртуальнай часткі надыдзе і чарга рэстаўрацыйна-адленчай. І ўжо зроблены першыя крокі да гэтай стадыі. Прынамсі, пачалося добраўпарадкаванне замкавай тэрыторыі і выкашана двухметровая трава. Гэта паспрыяла турыстам, якія больш актыўна наведвалі вежы, былыя залы і пакоі замка.



Фота аўтара

Пашырэнне ведаў пра эпоху Соф'і Гальшанскай і пра гістарычныя падзеі, звязаныя з мястэчкам, якія папярэднічалі з'яўленню дынастыі Ягелонаў, былі прысвечаны тэатралізаваныя пастаноўкі «Сватаўство Ягайлы да Соф'і Гальшанскай» і «Каралеўскае вяселле» ў выкананні тэатра «Падарожжа ў сярэднявечча» з горада Ліда. За выняткам некаторых недахопаў і зацягнутасці сцэнічнай дзеі, пастаноўка выклікала жывую цікаўнасць і апладысменты тых, хто завітаў на адкрыццё III фестывалю «Гальшанскі замак».

Асаблівая ўвага мясцовых жыхароў і турыстаў, якія ў гэты дзень трапілі на свята, была аддадзена музычна-харэаграфічнаму спектаклю «Карнавал стагоддзяў», які і надаў тэматычную скіраванасць усяму сёлетняму фэсту ў Гальшанах. Маладыя і гожыя танцоркі і танцоры з тэатраў сярэднявечнай культуры «Фламея» і «Яварына» нагадалі гледачам, што і як танчылі людзі ў часы сярэднявечча. Ну, а ўдзельнікі клуба «Залатая шпора» запрашалі прысутных на шляхецкія балі, якія праводзіліся напярэдадні руска-французкай вайны 1812 года. Далей танцавальнае шоў перарасло ў сапраўдны баль каля муроў Гальшанскага замка, на якім ужо жадаючыя змаглі павальсаваць з маладымі паненкамі і уланамі. Увогуле, рэканструкцыя і знаёмства з рэаліямі эпохі вайны 1812 года — навінка сёлетняга «Гальшанскага замка».

А ў гэты час на фестывальных пляцоўках адбываліся цікавыя дзеі з удзелам клубаў гістарычнай рэканструкцыі. На іх можна было пабачыць прадстаўнікоў розных прафесій і тое, як яны працавалі ў часы сярэднявечча. Ля муроў Гальшанскага замка разгарнулі свае варштаты ткачы, ганчары і кавалі, якія прапаноўвалі жыхарам мястэчка і гасцям навучыцца азам прафесіі, сваімі рукамі вырабіць рэч, якая будзе доўгія гады нагадваць пра фэст. Пра тое, што сярэднявечча ўсё ж было не такім рамантычным перыядам у гісторыі чалавецтва, нагадвалі хмуры кат, які запрашаў ахвотных у клетку-катоўню, і каларытны мніх, што побач гандляваў індульгенцыямі.

Дзяцей, якіх у гэтым годзе было на фестывальных пляцоўках непараўнальна больш, зацікавіла магчымасць самім паўдзельнічаць у рыцарскіх спаборніцтвах. Дзеля гэтага ім даводзілася апранаць цяжкія кальчугі, рыцарскія шлемы і фехтаваць сярэднявечнымі мячамі. І трэба было бачыць, з якім непадробным імпэтам хлопчыкі і дзяўчынкі ішлі да спаборніцтваў, нягледзячы на вялікую вагу даспехаў. Безумоўна, гэты першы ўрок рыцарства малыя будуць памятаць доўга, і дай Божа, каб яны кіраваліся яго законамі ўсе жыццё!

У гэтым годзе асаблівая ўвага арганізатараў была нададзена правядзенню пешага і коннага рыцарскага турніру, у якім удзельнічалі некалькі дзясяткаў вояў. Безумоўна, гэта частка фэсту — найбольш выйгрышная з-за свайго драматызму і дынамікі. Але хацелася б запытаць тых жа арганізатараў і ўдзельнікаў клубаў гістарычнай рэканструкцыі: чаму каля сцен Гальшанскага замка вялі рэй крыжакі і іх памагатыя з усёй Еўропы — шматвяковыя ворагі нашай старажытнай Бацькаўшчыны? Такую «рэканструкцыю» ўзгаданыя раней Вітаўт і Ягайла, князі Гальшанскія, калі б маглі прысутнічаць на фэсце, не зразумелі б. О, тады сцеражыся вялікакняскага гневу!

На замкавую сцэну адзін за адным выходзілі любімцы публікі — выканаўцы фальклорнай і сярэднявечнай музыкі, якіх так упадабала публіка Гальшан на мінулагодніх фестывальных канцэртах.

Безумоўным лідарам слухацкай зацікаўленасці стаў гурт «Стары Ольса», кіраўнік якога Зміцер Сасноўскі паспяваў вырашаць шматлікія арганізацыйныя пытанні, раздаваць аўтографы сваім прыхільнікам, рыхтавацца да выступлення з гуртом, а яшчэ са сваім «Reno-Масквічом» удзельнічаў у выставе рэтра-аўто. Але ўсе гэтыя турботы не адбіліся на якасці гучання і музыкі «Старога Ольсы». Іх праграма складалася як з любімых слухачамі хітоў, так і твораў «Полацкага сшытку», якія не так даўно ўвайшлі ў рэпертуар калектыву. Адну з кампазіцый музыканты прысвяцілі «сапраўднаму чалавеку сярэднявечча», лідару гурта «Nirvana» Курту Кабэйну. Гэта знакамітая мелодыя XIII стагоддзя «Ai Vis Lo Lop», асэнсаваная беларускімі музыкантамі ў постмадэрнісцкай стылістыцы з выкарыстаннем мелодый Кабэйна і яго гурта.

Атмасферу свята стваралі і іншыя гурты сярэднявечнай музыкі. Высокім выканаўчым майстэрствам грання на нямецкіх дудэльзаках і іспанскіх гаітах вылучаліся музыканты гурта «Cornucopia», якія традыцыйна абапіраліся на еўрапейскі рэпертуар. Але найбольш слухачы ўпадабалі выкананне гуртом «Cornucopia» беларускай песні «Зялёны дубочак». Вопытным музыкантам добра дапамагалі і маладыя, менш вядомыя каманды — «Тутэйшыя» і «Яварына». Апошні гурт з'яўляецца музычным калектывам аднайменнага танцавальнага тэатра.

Сапраўдны фурор на фестывалі зрабіў іншы малады гурт — «Unia», які ўпершыню быў госцем фэсту «Гальшанскі замак». Іх фолк-рок у сучаснай трактоўцы, з цяжкай, «гарматнай» рытм-секцыяй, вельмі спадабаўся гальшанцам і гасцям фэсту, якія апантана танчылі пад іх рытмы, а потым некалькі разоў выклікалі гурт «Unia» на біс. Як тут не захапіцца маладой энергетыкай салістаў — дзяўчатак і хлопца-волата, якія разам стварылі на сцэне сапраўднае рок-шоў! Дый кампазіцыі, што ў гэты дзень гучалі са сцэны, — бяспройгрышныя народныя хіты: «Хлопец пашаньку пахае», «Я скакала, я плясала...», «Каваль».

Калі на фестывальную сцэну выйшлі музыканты фолк-мадэрнпраекта «Pawa», то над Гальшанамі запанавала ноч. Цёмныя абрысы муроў і вежаў замка надалі іх сэту таямнічасць і нейкую тэатральную змрочнасць. А яшчэ паспрыялі большаму жаданню ўдзельнікаў і гасцей фестывалю пабачыць абяцанае фаер-шоў, якое сваім іскрыстым святлом разагнала цені, што навіслі над замкавымі калонамі і скляпеннямі.

КНІГАРНЯ

# ПАКУЛЬ ЛЯЦІЦЬ СТРАЛА

**Выйшла ў свет чарговая кніга Уладзіміра Арлова «Пакуль ляціць страла».**




У творчай біяграфіі майстра ўжо быў «Дзень, калі ўпала страла» — зборнік гістарычных апавяданняў і аповесцей. І вось новая кніга, сугучная па назве, але адрозная па жанру.

Аказваецца, пакуль набірае вышыню і хуткасць страла пісьменніцкага натхнення, чытачы не марудзяць, атакуючы пісьменніка сваімі стрэламі-пытаннямі. Самай разнастайнай баявой размалёўкі і апярэння — ад палітычных, гістарычных, эратычных, асабістых да творчых метадаў і прагнозаў на канец свету. І пісьменнік не ўхіліўся ад рыцарскага турніру, і, пад натхненне, на зварот адкінуў сто стрэл-адказаў, размеркаваўшы іх па трох мішэнях — «Было», «Ёсць» і «Будзе». Аздобіўшы іх сваім фірмовым гумарам.

Куды ж ляціць беларуская страла, страла кожнага з нас? Праз вякі і тузін кольцаў — гонару і годнасці, справядлівасці і ўзаемнай любві? Чытаем кнігу майстра Уладзіміра Арлова, мо лепш асэнсуем адказ.

Уладзімір Арлоў. Пакуль ляціць страла (Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе) — Радыё Свабодная Еўропа/ Радыё «Свабода», 2012. — 397 старонак.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 507

Падпісана да друку 1.06.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.